


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

14 ЖНІЎНЯ 1998 Г. № 33/3961 КОШТ 4 000 РУБ.




## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на наш штотыднёвік на чацвёрты квартал 1998 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі ранейшы — на месяц — 15 тысяч рублёў і на квартал — 45 тысяч рублёў.*

**Наш індэкс — 63856**





# Музей, які ўсім падабаецца

Пра музей беларускай цацкі ў Мінску ведаюць нямногія, бо ён яшчэ не мае музейнага статуса і ўласнага памяшкання. Месціцца музей пры Беларускім навукова-метадычным цэнтры гульні і цацкі ў дзіцячым садзе N 376.

Першая зала звычайна крыху расчароўвае наведвальнікаў: у ёй сабраны ўзоры цацкі прамысловай — тэхнічнай, мяккай, гумавай, драўлянай. Многія з гэтых вырабаў, на жаль, пазбаўлены фантазіі і гумару, але менавіта на іх выхоўваліся нашы дзеці. Гульні малым проста неабходны. Даследаванні паказваюць, што дзіця, якое недагуляла ў маленстве, можа адставаць у разумовым і псіхічным развіцці, што непазбежна адаб'ецца на працоўнай дзейнасці і сямейным жыцці.

Затое ў другой невялічкай зале ніхто не застаецца абыякавым. Тут размешчаны цацкі традыцыйныя — ад старажытных, знойдзеных у Верхнім горадзе і падараваных музею Г. Штыхавым, да сучасных перайманняў, зробленых лепшымі майстрамі. Шырока прадстаўлены цацкі з гліны, дрэва, лёну, саломкі. На паліцах — персанажы першых беларускамоўных мультфільмаў,

*(Працяг на стар. 2)*

ВЫСТАВЫ

# Усмешка, што падаўжае жыццё

“Я ўпаў на тратуар, там, дзе зелянеў даляр...” Што нагадвае вам гэты вершык паэта Леаніда Дранько-Майсюка? Падкажу: жывапісныя творы мінскага мастака Валянціна Губарава. Зрэшты, і прапанавана было гэтае двухрадкоўе на адкрыцці выставы мастака — як магчымая тэма для яго будучай работы.



Прадстаўлены гледачу апошнія творы Губарава — вартыя ўвагі: “Цнатлівыя і рака”, “Талерка для абутку”, “Ветэран рухомага саставу”, “Лямпачка ў 200 ват”, “Яешня з плотам”... Раю: сходзіце ў галерэю “Мастацтва” Саюза мастакоў Беларусі, дзе з 28 ліпеня працуе выстава іранічна-гратэскных твораў В. Губарава. Назвы яго работ — парадоксы, работы — суіснаванне несумяшчальнага, а сам ён — чалавек, з твару якога, здаецца, не сыходзіць усмешка. Знайдзіце асалоду сярод раскіданых на сценах порцый метафар і іншасказанняў, прыпраўленых наіўным прастадушшам і фантазіяй. А калі зацікавіцеся нейкім сюжэтам, даверцеся сваёй інтуіцыі і пашукайце патаемны сэнс і падтэкст. Бо інакш якое рацыянальнае зерне ўбачыце вы ў засмажаным сярод сучасных шматпавярховых гмахаў яешні; у кедзе, што прытуліўся на шыкоўнай талерцы; у задзёртай спадніцы моцнай бабы, якая ў кампаніі мужчын, стоячы на стале, закручвае пад столлю лямпачку; урэшце, у лодцы з пачварнага выгляду жанчынамі, якія апускаюць у раку купальскія вянкі?..





На адкрыцці выставы выступалі многія дзеячы: ад мастакоўскага кола — Г. Лойка, С. Пчалінцаў, У. Тоўсцік, мастацтвазнаўца Н. Зелянкова, ад пісьменніцкага — У. Арлоў, Л. Дранько-Майсюк. Гаварылі многа добрых слоўаў пра пладавітасць і працаздольнасць, пра рост майстэрства і магчымасці самавыражэння. Гаварылі і пра метамарфозу, што сталася з мастаком за гады яго творчай дзейнасці. Бо Валянцін Губараў пачынаў “як усе”: з дзіцячай студыі ў Палацы піянераў, вучобы ў Маскоўскім паліграфічным інстытуце, на аддзяленні графікі, з працы мастацкім рэдактарам у мінскіх выдавецтвах. У вольны час шмат працаваў. Мастак жыў побач з намі, але, у адрозненне ад большасці з нас, заўважаў усе недарэчнасці нашага існавання. Так, з разваг над вар'яцкасцю навакольля “стварыліся” гумарыстычныя і іранічныя сюжэты.

Застаецца дадаць, што Валянцін Губараў у асноўным выстаўляецца за мяжою — у Італіі, Германіі, Францыі. На Беларусі гэта выстава — другая па ліку.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: В. Губараў на выставе; “Ветэран рухомага саставу”; “Група рызыкі”.*

*Фота К. ДРОБАВА*

# Сто мексіканскіх плакатаў

Мексіканскае мастацтва пачынае сваю гісторыю з культуры ацтэкаў. У XIX ст. яно прынесла ў сусветную скарбніцу “манументальнае” мастацтва Ароскі, Рыверы, Сікейраса. На графічным майстэрстве Мендэса, Бустаса, Кальдэрона і іншых вучылася не адно пакаленне маладых беларускіх графікаў, асабліва ў 60-я гады, падчас узлёту ў нас папулярнасці лінагравюры. Натуральна, высокі ўзровень мексіканскай графікі адбіўся і на майстэрстве плаката, які нарадзіўся ў Мексіцы ў 30-я гады як палітычны, а цяпер стаў вельмі папулярны ў гэтай краіне, разнастайны і часта некамерцыйны.

Беларусь незнаёма з сучасным мексіканскім плакатам, як і ўвогуле з сучасным мексіканскім мастацтвам. Не маем мы і прадстаўніцтва гэтай краіны ў Мінску. Таму выстава “Сто мексіканскіх плакатаў”, што адкрылася днямі ў Музеі сучаснага мастацтва, прывезена атašэ па культуры пасольства Мексікі ў Расійскай Федэрацыі спадаром А. Кампасам “праездам” на Украіну. Да таго ж яна будзе прадстаўлена для агляду толькі тыдзень з-за неабвязданняў у беларускім мытным заканадаўстве, якія не далі магчымасці вывесціць у запланаваны час ужо прысланыя работы. Таму і адкрыццё выставы сталася спантанным, нешматлюдным, чаму, у дадатак, перашкодзіла і лета, час, калі студэнты-мастакі на канікулах. А паглядзець гэту выставу ім было б варта. Паглядзець і павучыцца, бо Беларусь перажывае зараз час станаўлення плакатнага майстэрства, у якім раней проста не было грамадскай патрэбы. Дагэтуль мы былі больш знаёмыя з польскім плакатам, як найбольш прызнаным і дасканалым у Еўропе, але мексіканскі, самабытны і каларытны, не ўступае яму ні ў чым.

На адкрыцці выставы выступілі дырэктар Музея сучаснага мастацтва, народны мастак Беларусі В. Шаранговіч, аташэ па культуры пасольства Мексікі ў РФ А. Кампас, прадстаўнік Міністэрства замежных спраў Беларусі С. Сяргееў.

Атанасія Кампас распавёў, што работы для выставы былі адабраны на спецыяльным конкурсе, які штогод праводзіцца ў Мексіцы дзяржаваю для стымуляцыі і падтрымкі гэтага віду мастацтва. У конкурсе ўдзельнічаюць і вядомыя мастакі, але галоўная ўмова — плакат мусіць быць некамерцыйны. Таму і тэмы іх спецыфічныя: кіно, падтрымка аб'яднаных мерапрыемстваў супраць СНІДа, распаўсюджвання наркотыкаў, навадненні, тысяча алоўкаў для дзяцей Нікарагуа альбо абвестка аб звычайнай сялянскай вясковай ярмарцы. І пры гэтым узровень плакатаў застаецца вельмі і вельмі высокім.

Ад імя пасольства спадар Кампас паабяцаў праводзіць на Беларусі хаця б адно мерапрыемства ў год. На наступны год міркуецца прывезці да нас фотавыставу. Хацеў бы ён пазнаёміць сваю краіну і з беларускай культурай. Дарэчы, Беларусь для спадара Кампаса — не белая пляма. У яго родным горадзе, невялікім, на сто тысяч чалавек, захоўваецца карціна Марка Шагала — “мастака з Беларусі”.

**Н. ЖОГЛА**

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## Ва ўкраінскім альманаху

Даўняе сяброўства яднае берасцейскіх і валынскіх літаратараў. Сустрэчы на памежжы цяпер не такія і частыя, затое ўзаемныя пераклады твораў працягваюцца па-ранейшаму. Вось і нядаўна ўкраінскія сябры ўключылі ў літаратурны альманах “Світязь” вершы М. Рудкоўскага, В. Жуковіча, А. Каско, З. Дудзюк, В. Сахарчука ў сваіх перакладах. Змешчаны таксама творы М. Герасіміка і М. Цялічкі — аўтараў-украінцаў, якія жывуць у Брэсце. Надрукавана, апрача таго, паэзія С. Законнікава. Укладальнік зборніка — кіраўнік Валынскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Украіны, вядомы паэт Васіль Гэй.

У сваю чаргу літаратары-берасцейцы падрыхтавалі вялікую нізку вершаў валынскіх калег для часопіса “Радавод”.

## Новыя выставы краязнаўчага музея

Залы Брэсцкага краязнаўчага музея багатыя не толькі пастаяннай экспазіцыяй. Яны прываблівацюць наведвальнікаў і перасоўнымі тэматычнымі выставамі, якія наладжваюцца рэгулярна. Зараз тут можна пазнаёміцца з дакументамі, што распавядаюць пра жыццё і дзейнасць П. Машэрава, з рэліквіямі апошняй вайны, калекцыяй філатэліста Ф. Абдуліна, фотавыставай “Аблічча Ізраіля”.

Самая новая экспазіцыя — “Медны посуд XVIII—пачатку XX стагоддзяў”, матэрыялы для якой прывезены з Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

## Знаўца Давыд-Гарадка

Міхаіл Уладзіміравіч Шэлэхаў, адзін са старэйшых краязнаўцаў Брэстчыны, многа гадоў пражыў у самым бадай цікавым, маляўнічым і самабытным кутку яе — у Давыд-Гарадку. Працаваў тут дырэктарам школы і настаўнікам гісторыі (цяпер на заслужаным адпачынку, вяскоўец). Вывучэнню роднага мястэчка Міхаіл Уладзіміравіч і прысвяціў сваё жыццё. Яго дасведчанымі публікацыямі ў перыядычных выданнях і энцыклапедычных даведніках, у тым ліку БелСЭ, карыстаюцца вучоныя, паслухаць яго змястоўныя аповеды прыходзяць школьнікі, настаўнікі, пісьменнікі.

Напярэдадні 900-годдзя з часу заснавання Давыд-Гарадка краязнаўца абагульніў свае шматгадовыя даследаванні ў вялікі гісторыка-этнаграфічны нарыс, які мае стаць асобнай кніжкай. А пакуль што з ім — ужо на працягу многіх нумароў — знаёмяцца чытачы абласной газеты “Народная трыбуна”.

## Пераканалі ў сваім майстэрстве

З 7 па 11 жніўня ў Брэсце гастраляваў міжнародны цырк ліліпутаў, які аб'яднаў “маленькіх” артыстаў з розных краін свету, у тым ліку з Беларусі. Напярэдадні выступленняў дырэктар (ён жа і рэжысёр цырка) Вадзім Гурэвіч даў інтэрв'ю журналістам і адзначыў, што людзі, з якімі яго паядналі 15 гадоў працы, вельмі старанныя, зычлівыя, таленавітыя.

У гэтым пераканаўся глядач, пабачыўшы вялікую праграму з удзелам акрабатаў і жанглёраў, паветраных гімнастаў і канатаходцаў, клоунаў і эксцэнтрыкаў, артыстаў іншых цыркавых жанраў.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬ...*

## Падарункі землякам

На Рагачоўскай зямлі нарадзіліся знакамітыя людзі, добрыя душой і сэрцам. Адзін з іх — доктар юрыдычных навук, прафесар, загадчык кафедры Маскоўскага юрыдычнага інстытута М. Расолаў. Не забыўся ён на радзіму, дапамагае землякам, пры яго ўдзеле створана карцінная галерэя ў вёсцы Ціхінічы.

У гэтым кутку беларускай зямлі нарадзіўся і прафесар П. Селіванаў, які працуе ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ён — аўтар кнігі “Камкор Барыс Гарбачоў” (у 30-ых гадах — ваеначальнік былога Савецкага Саюза). 500 асобнікаў гэтага выдання Селіванаў перадаў у бібліятэкі і школы Рагачоўскага раёна.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

## “Вяртанне ў юнацтва”

Магілёўскі абласны цэнтр народнай творчасці выпусціў у свет зборнік песень і інструментальных твораў самадзейнага кампазітара Яўгена Маланкова. Назва кніжкі — “Вяртанне ў юнацтва”. Днямі ў гасцёўні цэнтра адбылася яе прэзентацыя. Бралі ўдзел у гэтым прыемным мерапрыемстве сябры абласнога клуба самадзейных кампазітараў.

Яўген Маланкоў — пенсіянер. Больш за трыццаць гадоў адпрацаваў у Магілёўскім ліцэі музыкі і харэаграфіі. Але і зараз ад творчых спраў не адыходзіць. Выкладае ў дзіцячай школе мастацтваў, што ў вёсцы Вейна.

## “Бацька” народных тэатраў

Споўнілася 70 гадоў заслужанаму дзеячу культуры РБ Уладзіміру Дзмітрыевічу Бараноўскаму — галоўнаму рэжысёру абласнога цэнтра народнай творчасці, кіраўніку народнага тэатра мініяцюр “Серпантын”, што працуе пры гарадскім цэнтры культуры. За свой век кіраваў Бараноўскі сямю самадзейнымі тэатральнымі калектывамі. Кожнаму з часам прысвойвалася званне народнага.

З нагоды юбілею ў абласным драматычным тэатры адбылася вечарына “Усмешка ўсім да твару”, на якой прадстаўнікі грамадскасці і творчай інтэлігенцыі павіншавалі Уладзіміра Дзмітрыевіча са святам.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*ГРОДНА...*

## Належыць будучыні

Стала традыцыяй, што дні нараджэння Ларысы Геніюш аматары яе паэзіі адзначаюць на магіле паэткі ў Зэльве. Сёлета таксама 9 жніўня з'ехаліся з Гродна, Зэльвы і Гудзевіч беларуская інтэлігенцыя і знаёмыя Геніюшаў, каб ускласці кветкі на магіле Янкі і Ларысы, памаліцца, памянуць іх. Было ўсё ціха і прыгожа. Не было міліцыі, як летась, калі святары прасядзелі дзве гадзіны ў пастарунку. Толькі вецер. Гучалі вершы, неўмірučыя, актуальныя. 88 гадоў, як паэтка нарадзілася. Ужо 15 гадоў, як яе няма сярод жывых. Гэта немалое выпрабаванне. Многіх за 15 гадоў забываюць. Ларыса Геніюш — па-ранейшаму адна з першых паэтак Беларусі. І творчасць яе чакае выдаўцоў, чытачоў. Ларыса Геніюш належыць будучыні.

**Алена ГАЙКО**

# Мара беларуса,
## альбо Дуля ў кішэні
### НЕПРЫДУМАНЫЯ "КАЗКІ" АБСУРДНАГА ЖЫЦЦЯ

*— Не, мы будзем жыць лепей!*
*— Ды казкі ўсё гэта...*
**З пустых размоў**

Кіроўца 53-га тралейбуса абвяшчае прыпынкі па-беларуску. Бабулькі — пасміхаюцца. Моладзь — прыслухоўваецца. На тварах астатніх — напышлівая абыякавасць. А хітры дзядзька-кіроўца ў адчайна расшпіленай сарочцы пазірае наўкола з зайздроснай жыццярадаснасцю. Ён дакладна ведае дарогу. І справа не ў тралейбуснай "прывязанасці" да маршруту. Дзядзька, як архангел, узвышаецца над натоўпам, бо хоча застацца асобай. Дзівак! У гэтым памкненні ён адрываецца ад рэальнага жыцця, ад "калектыву" з яго жалезабетонным прынцыпам: "белых варон", як і архангелаў, збіваць на ўзлёце!"

— Наступны прыпынак, спадары, — тэатр музкамедыі...

Чаму "наступны" і чаму "камедыі"? Мы які ўжо год мітусімся на бясконцым, неабмежаваным рамкамі разумнага прыпынку, не зважаючы на трагедыйнасць усёпаглынаючай абсурднасці. Чакаем цягніка, кіроўцы якога проста не жадаюць (альбо не ўмеюць?) глядзець наперад, у будучыню... Амерыканская мара, раздзьмутая і расфарбаваная, як святочны паветраны шарык: стаць чалавекам. Беларуская ж, шэрая і непрывабная ўжо для многіх: чалавекам застацца...

"Апазіцыйны" тралейбус рушыць наперад.

●

З левай кішэні, заўжды адтапыранай напагатове, пісьменнік Леанід Галубовіч вось ужо колькі гадоў запар выцягвае бясконцую нізку "зацемкаў". Уласнае жыццё, дараванае няроўным дыханнем гора і радасці, наўмысна пасечанае на кавалкі, відаць, для больш дэталёвага высвятлення спрадвечнага інтэлігенцкага: "Што ж з намі робіцца?" У левай кішэні — "зацемкі", а ў правай? Абмяркоўваю гэтае "надзённае" пытанне ў лімаўскіх кабінетах.

— Мабыць, дуля, — са смехам выказвае меркаванне паэт Віктар Шніп.

А што? Вялікі ў гэтым сэнс. Які беларус без дулі ў кішэні? Для фанабэрыстага і нахабнага суседа, які пазірае на тваю радзіму як на палігон для бязглуздых палітычных эксперыментаў; для тутэйшага дзяржаўнага чыноўніка, якога ванітуе не толькі ад мовы, але і ад усяго, што звязана з мінулым і будучым сапраўднай Беларусі. І раз-пораз выцягваецца гэтая дуля з кішэні, але ўжо ў выглядзе кулака, такога ж ёмістага, канкрэтнага і неаспрэчнага, як мэтанакіраванасць Каліноўскага, непахіснасць Гаруна, непрымірымасць Быкава... Хоць і эпізадычнае, але супрацьстаянне. Глупству, невуцтву, бязроднасці.

Дуля ў кішэні — наша нацыянальная традыцыя, частка беларускага погляду на жыццё, калі хочаце — знак бяды, сімвал неажыццёўленых пакуль спадзяванняў застацца чалавекам.

— Гады! — крычыць з ходніка на белчырвона-белы "Чарнобыльскі шлях" ссівелы дзед. — Радзіму прадалі! Усе беды ад вас!

Хоць і п'яны ўшчэнт, але малога ўнучыка трымае за руку моцна, паглядае на яго раз за разам з пераможнасцю. Глядзі і вучыся, маўляў, як іх, нацыяналістаў паганых, трэба... Дзед таксама быў калісьці беларусам, але дуля ў ягонай кішэні засталася. Як пакаранне самому сабе. Мімікрыя не дзеля таго, каб застацца чалавекам, а дзеля таго, каб выжыць. Вось такія казачкі невераготнага нашага жыцця.

●

Прагназуючы непрадказальнае мінулае, мы з жахам успамінаем будучае. Амаль штодня мяняем погляды, у чарговы раз аўральна спрабуем адрадзіць нацыю, і ў чарговы раз не менш аператыўна адкладваем гэтую справу на потым, забываемся на ўласнае прозвішча, прызвычайваемся да вокрыку...

— Дурні вы, беларусы, — даводзіў мне яшчэ ў сярэдзіне 80-ых малады латыш на рыжскай плошчы Незалежнасці. — Не ведаеце, чаго хочаце!

Сапраўды, чаго?! Шмат бульбы, сала і гарэлкі? А потым ужо, на глебе ўсеагульнай сытнасці і паўсюднага пахмелля, — духоўнай гармоніі і шчырага братэрства са шчырай Расіяй? "Для дабрабыту нашага яшчэ і дысцыпліна патрэбна ва ўсім, жорсткая рука!" — крыкліва дадаюць ветэраны-сталіністы. Напалоханыя бабулькі спяшаюцца на рэферэндум, аберуч галасуючы за сённяшні "дабрабыт". Сапраўдная беларуская мара ў стадыі амаль пераможнай рэалізацыі: жаданне бязлітаснага бізуна і салодкага таннага перніка адначасова...

Як мы ацэньваем наша нядаўняе мінулае? Моўчкі. З дуляй у кішэні. Песіміст вывучае замежную мову і шукае шляхі бесперашкоднага выезду за кардон. Аптыміст радуецца, што змены да горшага становяцца справай звыклай і будзённай.

●

Не, сапраўды, дае надзею тое, што нават састарэлы электарат спадзяецца зараз толькі на сябе. На свае працавітыя рукі, на гародчык, на ўласную жыццёвую кемлівасць і разваротлівасць. Як жа інакш у цьмяную часіну перамен? І ніколі ў большасці сваёй не ведалі пенсіянеры нашы Ключэўскага. Але, глядзі ж, як выдатна засвоілі за апошнія гады, што гісторыя не вучыць, а толькі карае за няведанне ўрокаў.

Глядзіць тая бабулька (што за жыццё сваё тры галодныя няшчымніцы перацярпела-агорала) на цэннікі ў краме і не вельмі здзіўляецца. Дзівам было б, каб цэны гэтыя падалі з такім жа імпэтам, як наверх шкрабуцца. Не здзіўляецца, бо ведае: лепшага ці варта чакаць. І бульба ад дажджоў гніе, і перакручанае жыта на палях калгасных травой прарасло. Зіма паўгалоднай будзе, і пенсія не вельмі дапамога, бо грошыкі з яе адкладвае бабулька на чорны дзень, каб хоць пахавалі па-людску. Таму і не знойдзеш яе днём у хаце. Збірае па скверах бутэлькі, прадае на рынках з неймаверным цяжарам вырашчаныя гуркі, а калі градаў няма — іншым разам проста старцуе ў пераходзе. Яна ведае ўрокі гісторыі, ад гора дабра ўжо не чакае, закупляе на Камароўцы танныя крупы на злую зіму.

Новых бедных беларусаў становіцца ўсё больш. Цэны на асноўныя прадукты харчавання няўхільна растуць. Дзяржаўныя эканамісты гавораць пра нейкія зрухі да станоўчага. Бабулька ўжо не слухае. Хто з іх разумнейшы? Апошняя хоць не падманвае самую сябе...

●

Яшчэ адзін "казачны" сюжэт для аматараў вышуквання жыццёвага сэнсу (чытай — аматараў абсурду).

— Безумоўна, наша лячэнне вам павінна дапамагчы, — кажа ўрач адной з мінскіх паліклінік хранічна хвораму. — І лекі дастаткова эфектыўныя (калі ў вас грошай на іх хопіць)... Але для поўнага эфекту параю ўсё ж... звярнуцца да знахаркі.

Хворы, шалеючы ад спроб скарыць вяршыні нашага медабслугоўвання, спяшаецца звярнуцца па прапанаваным адрасе. Васьмідзесяцігадовая малінаўская бабулька з гатоўнасцю прымае ўсіх. Прыпыняе хваробы, загаворвае ад фінансавых прадпрымальніцкіх крахаў, дадае веры ў будучыню, страхуе ад няўдалага кахання, вяртае памяць, розум, калі трэба — і сумленне. І даверліва пытаецца ў мяне: "Слухай, чаму я такая хворая? Мо радыяцыя?!"

У цікавы час жывём, спадары! І гэта таксама наша беларускае (няхай толькі хто паспрабуе адабраць!): блукаць чарадой у прыцемках, баяцца святла, не давяраць дзяржаве, спадзявацца на знахарку, астрал і карму, верыць у чорта ці д'ябла, толькі каб прыйшло яно: чалавечае шчасце. Адразу і ў поўным аб'ёме! Без асаблівых на тое маральных і фізічных высілкаў.

Эвакуіраваныя ад радыяцыі гарады і вёскі актыўна засяляюцца. Атамны бруд выводзіцца з арганізмаў дамарослымі кашпіроўскімі і чумакамі. Дзяржава не без цікаўнасці пазірае: чым скончыцца "вялікі" эксперымент?

●

А што, сапраўды, у нас з радыяцыяй? "Якая радыяцыя, калі вакол такі СНІД?!" — адгаворваюцца жартачкамі знаёмыя фізікі. Не забываючы пра страшэнныя тэрміны паўраспаду радыенуклідаў, спрабую асэнсаваць праблему па-абывацельску. Камароўскія гандляры гідліва адварочваюцца, ігнаруючы мае пытанні наконт афіцыйнай даведкі пра радыяцыйную чысціню іхніх ягад ды грыбоў.

Якое ўжо пакаленне японцаў, не забываючы ўсё пра тыя ж урокі гісторыі, не грэбуе ў паўсядзённым ужытку персанальнымі дазіметрамі! Практычны і разумны народ! Хірасіма і Нагасакі для іх — сімвал нястомнай барацьбы за асабістую бяспеку. Чарнобыль для беларусаў — сімвал абыякавасці да службовага абавязку, уласнага здароўя...

Не, за радыяцыйнай чысцінёй прадуктаў на Камароўскім рынку сачыць павінны гарадскі і раённы цэнтры гігіены, на рынках стыхійных — праваахоўчыя органы. Ну а ў выніку (чаго тут здзіўляцца!), безумоўна ж, мы з вамі. Усё тая ж беларуская мара ў ваяўнічым дзеянні: хоць як ды выжыць, уласнае глупства ўзводзячы пры гэтым у "прыстойны" ранг доўгацярплівасці і анекдатычнай ужо памяркоўнасці.

●

Дурняў нават у царкве б'юць... Пачуў гэтае выслоўе ад старой жанчыны. Што яна мела на ўвазе, уніклівая? Ну, стаяць па вялікіх храмавых святах былыя партыйныя бонзы навыцяжку перад святарамі, вочы закаціўшы. "Асвятляюць" сваёй прысутнасцю царкву. І няёмка ім, бедным, у свой час нехрышчоным. Ну, цытуюць зараз з высокіх трыбун не Маркса з Леніным, а пісанне святое, хоць і блытаюцца крыху. І здзіўляцца тут няма чаго. Час ідзе (якая розніца, узад ці ўперад?), і антураж палітычных гульняў мяняецца. Замест партрэтаў правадыроў — іконы пакутнікаў. Замест маральнага кодэксу будаўніка камунізму — святыя запаветы. А ўсё для чаго? Ды не ад грахоў ачысціцца (дробязь якая!), а з народам пашчыльней зліцца, "чаяння" яго ў чарговы раз зразумець. Усё прыстойна быццам. Дык пра якую бойку, кабета, размова? Бога пабойцеся..."

●

Чалавек жыве марамі ды надзеямі. У адных яны, як у казцы, здзяйсняюцца. Па прынцыпе "з гразі — у князі". Учора яшчэ грошы пазычаў, а сёння — глянь ты! — на "шасцісотым" кудысьці спяшаецца. А другія з галечы да канца дзён выбрацца не могуць, хоць і не гультаі, не дурні з дзяцінства... Антаганізмы маладога і малавопытнага ў пошуках здаровага сэнсу грамадства. Справа нармалёвая! Як зазначаў адзін класік, падшэўка набітага партаманета прымацавана жабрачымі слязьмі. "Ён, на "шасцісотым", толькі таму багаты, што я бедны", — з жахам прыходзіць да высновы чарговы абывацель і кідаецца з адчаем у бурлівае і не зусім чыстае мора камерцыі, а значыць (па законах таго ж маладога грамадства) — у махлярства, хабарніцтва, падман. Вершы застаюцца недапісанымі, дзеці — недавыхаванымі, хаты і дрэвы — недабудаванымі і непасаджанымі. Натуральна і гэта! Па рэалістычна-абсурдных законах далёка не казачнага жыцця. Падласць аднаго — заўсёды слабасць і няўпэўненасць другога, таго, з "нерэалізаванаю" дуляю ў кішэні. З жабрака ў прынцы — сюжэт амерыканскай казкі. Сюжэт беларускай — так і недапісаны. Толькі паспешлівыя, ледзь разборлівыя нататкі на палях: "...вучыцца выжываць — справа надта важная, але ці галоўная?.. чалавечы б твар пры гэтым не згубіць..." Ці звернуць увагу руплівыя цэнзар з рэдактарам? А пакуль прынц і жабрак на Беларусі пачаргова гінуць у жорсткай класавай барацьбе.

●

Для таго, каб застацца сабой, трэба, як мінімум, хоць кім-небудзь ды быць... Даруйце, паўтаруся: выбар самы шырокі...

Сусед кудысьці спяшаецца праз двор. Натапыраны, дзелавіты.

— Куды, Міша?

— Ды вось, людзі патэлефанавалі, кум пад суседнім домам п'яны валяецца. Забраць трэба, пакуль міліцыя не заспела.

— Чаму ты, а не жонка ягоная?

— Ды рукой даўно махнула, сама й міліцыю выклікала! А мне ж ён кум як-ніяк...

Не паспеў Міша кума "забраць". Нерухомае цела на доўгі час "органы" прытулілі. Быццам і не дробным душой быў той кум калісьці. У людзі выбіўся. Па закардонах матляўся, легкавікі прыганяў ды перапрадаваў. Грошы з'явіліся немалыя. Толькі не для сям'і, а для чаркі, аказваецца... Зламаўся кум, "шчасця" вялікага паспытаўшы.

Не белыя адзенні праведніка зараз на сябе ўсцягваю, не на правільны шлях чалавецтва накіроўваю, а сам разабрацца хачу, што за бязладдзе пануе зараз на Беларусі. Апатычная маўклівасць, пустадушнасць, п'яны запалены розум — галоўныя нашы рысы?! "Белых варон" усё менш, усё актыўней чорнае груганнё...

●

Побач з Камароўкай (ну, пуп Беларусі, дый годзе!) непрыкметны малады чалавек прадае ледзьве не штодня выбуханебяспечныя "Лімонкі" — прафашысцкія газэткі Эдуарда Лімонава, апалагета "глабальнай" русафільскай высновы аб чысціні славянскіх шэрагаў. Па гарадах і вёсках сноўдаюць дзелавітыя малойчыкі з босымі галовамі, з гатоўнасцю расказваюць штосьці пра "новую рускую праўду" ад Баркашова. Няхай жыве, маўляў, рускае народнае адзінства... Яшчэ адзін бок інтэграцыі з вялікай Расіяй. На духоўным, так бы мовіць, узроўні. Кансенсус (даруй мне Божа!) пэўных міжнародных колаў — самы поўны і гарманічны. Ды ці толькі на духоўным узроўні? Да мардабою справа даходзіць.

Былыя вучні, якія на колішняга класнага кіраўніка і зараз не забываюцца, расказвалі мне, што голагаловыя хлопчыкі з РНА прыехалі аднойчы да падлетка-негра (маці — беларуска, бацька з Гвінеі родам, але ў Мінску трывала асеў). Дык вось, прыехалі. Ты што, "нігер", на зямлі нашай робіш? Пагаварылі... І дахаты паехалі. З гузакамі і зубамі выбітымі. Наш беларускі негр за іхніх "рускіх арыйцаў"-расістаў мацнейшым аказаўся. Але выпадак амаль выключны. У прыватных "разборках" з меншасцямі РНА часцей верх бярэ. Арганізацыя! Таму і лезуць у яе тыя, у каго галава кволая ды з душой не ўсё ў парадку. Пад такім "дахам" любому падлетку без перашкод мускуламі пагуляць можна. У школе, на двары... Зноў знаёмыя хлопцы расказваюць: адзін з такіх актыўных хлопчыкаў "дах" РНА на дзяржаўны без перашкод змяніў: паступіў пасля школы ў школу міліцыі. Так да ўлады беспакаранай прызвычаіцца. Глеба беларуская, аказваецца, урадлівая і для баркашоўцаў з "лімонкамі"-дулямі ў кішэнях.

●

А ў сям'і кума Мішавага развод намячаецца. Жонка ў апошні раз "рукой махнула". Досыць, маўляў, шчасця такога! Ды і не працуе кум ужо нідзе, грошай дахаты не носіць. Каму, сапраўды, такі патрэбен? А ў сям'і дзетак двое. І шлюбаў такіх скасаваных па Беларусі процьма. Толькі ў маім колішнім класе вучняў з няпоўных сем'яў аж трыццаць працэнтаў было. І працэнт гэты, як паведамляе школьны псіхолаг, з кожным годам усё павялічваецца. Ды плюс псіхічныя адхіленні рознага кшталту ў новых першакласнікаў. Тут не да жартаў! Але зноў зачараванае кола: сям'я — школа, а значыць, — дзяржава з не вельмі дзейснымі захадамі па падтрымцы і першай, і другой.

У большасці сем'яў альбо п'юць да ранку, альбо "круцяцца" суткамі, праўдамі ці няпраўдамі грошы на жыццё зарабляючы. А школа... Савецкая яна наскрозь. І пакуль ніякія рэформы не дапамагаюць. Не веды на першым месцы, а адзнакі выдатныя, паказуха пылам у вочы правяраючых. І не дай Бог двойку гультаю выставіць — не яго, а сябе караеш. "Дрэнна вучыш",— адзіны вывад на педагагічных нарадах. А вучыць таго, хто не жадае гэтага ніякім чынам, усё роўна што жлукту вадой поўніць... Колькі медалістаў сёлета не толькі веды школьныя на ўступных іспытах у ВНУ не пацвердзілі, але і "заваліць" тыя іспыты ўмудрыліся. Відаць, каб адлівалі медалі гэтыя з сапраўднага золата, дык і цана ім сапраўдная была б, не паказушная...

●

Ніколі Ромка ў старанных вучнях не хадзіў. Як класны кіраўнік, хлебтануў я з ім гора. Хлопец без бацькі рос, у дзявятым класе чаго толькі ні вытвараў. І гарэлкай частавацца спрабаваў, і ножык у кішэні цягаў. На школьных саветах прафілактыкі ды на райвыканкамаўскіх камісіях па справах непаўналетніх — госці мы з ім былі частыя. Але паважаў я яго. За што?! І сам не ведаю дакладна. Мабыць, за тое, што на подласць прыхаваную хлопец ніколі не ішоў, чытаў шмат, на ўсё свой пункт гледжання меў, адстаяць аргументавана яго мог. У дзявятым класе на вучобу ўвагі не звяртаў, з троек не "вылазіў". А ў адзінаццатым, лайдак гэткі, усё ж зразумеў штосьці. Сам, без дапамогі. Прызнаўся потым: "Ды проста жудасна стала, што спіцца магу пасля школы, беспрацоўным стану, шэрым ды затурканым, такім, як і ўсе ў натоўпе гэтым маўклівым..."

Узяўся паспешліва Ромка за вучобу, і не прагадаў. Школу амаль на выдатна скончыў. Падаў дакументы ў ВНУ. Надзіва медалістам нашым — іспыты з поспехам вытрымаў, па прафілюючых прадметах "пяцёркі" атрымаў. Зараз — студэнт. Сур'ёзна музыкай займаецца. Планы на будучыню вялікія. Адна з мар: маці матэрыяльна пахутчэй падтрымаць... З гразі ды ў князі? Ды не! Усё працай і натуральней: хлопец не проста вытрымаў, ён захацеў застацца чалавекам.

Мабыць, гэтаму пакаленню і здзяйсняць мару беларускую. Мабыць, хоць яны здольныя будуць і сябе паважаць, і радзіму сваю. Не за грошы, не па загадзе, а па той простай прычыне, што людзі яны і інакш жыцця не ўяўляюць...

●

— А што, мужыкі, купім у якім моры на паях выспу незаселеную, — смяюцца сябры. — Дый пачнём усё спачатку. Абвесцім надзвычайным дэкрэтам абавязковымі для кожнага сумленне ды любоў да радзімы. Глядзіш, што і атрымаецца...

Пасмяяліся. А сусед Міша як быццам кропку жартаўлівым спрэчкам паставіў:

— Ды чым горш зараз, тым лепей, відаць. Мабыць, усе тыя людцы нашы, што спяць бесклапотна ў шапку, уцямяць урэшце, што не на дзядзьку дзяржаўнага, а на сябе спадзявацца трэба. Каб сям'ю не толькі захаваць, але апрануць, накарміць ды дзяцей як след вывучыць. І ніякіх тут дуляў у кішэні! Жыві сумленна, дык і памрэш гэтак жа. Справа цяжкая надзвычай, але ці ёсць іншыя шляхі?..

Твае словы, Міша, ды Богу б у вушы...

А ў 53-ім тралейбусе прыпынкі абвяшчаюцца зноў па-руску. Жыццё на Беларусі працягваецца...

**Яўген РАГІН**

## Пра юнацтва ў розныя гады

**Пад адной вокладкай у гэтай кнізе, якую выдавецтва "Універсітэцкае" выпусціла ў серыі "Школьная бібліятэка", сабраны тры аповесці вядомага пісьменніка Алеся Савіцкага. Кожная з іх напісана займальна, спрыяе выхаванню юнага чытача ў духу патрыятызму, таварыскасці, праўдзівасці. Першая — "Узаранае поле" — пра юнага разведчыка, які загінуў не ў баі, а працуючы на полі поруч са спаленай фашыстамі вёскай. Трэба ж было не толькі ваяваць, а і дбаць аб будучым ураджаі. Тэма вайны гучыць і ў аповесці "Белая знічка", герой якой, таксама юнак-партызан, выратаваў лагер народных мсціўцаў, куды кіраваліся гітлераўскія карнікі. Нарэшце, "Скажы мне праўду" — пра сучасных старшакласнікаў, пра іх вучобу, адпачынак і нязменныя праблемы, якія ўзнікаюць у кожнага пакалення ва ўзаемаадносінах з дарослымі.**

## Ветразі... "Ветразя"

**Некалькі гадоў запар з-за розных цяжкасцяў, якія існуюць сёння, у выдавецтве "Юнацтва" не выходзіў зборнік перакладной дзіцячай літаратуры "Ветразь". І вось прыемная навіна: толькі што з'явіўся чарговы яго выпуск, пазначаны 1998 годам. Праўда, ён розніцца ад папярэдніх, бо тэматычны і мае падзагаловак "У гасцях у казкі". Прадстаўлены ж у кніжцы як народныя, так і аўтарскія казкі, а геаграфія іх шырокая — Расія, Украіна, Казахстан, Малдавія, Германія, Данія, Чэхія...**

## І не толькі "Новая зямля"...

**Памятаю, як некалькі месяцаў назад адзін добра знаёмы пытаўся, ці няма ў мяне лішняга экземпляра паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа. На жаль, тады так і не змог яму дапамагчы. Не аказалася гэтай "энцыклапедыі народнага жыцця" і ў букіністычных магазінах і адпаведных аддзелах кнігарань сталіцы, што лішні раз пацвярджае, наколькі вялікай папулярнасцю карыстаецца творчасць народнага песняра і як прыхільнікі яе не спяшаюцца развітвацца з аднойчы прыдбанымі творамі. Цяпер жа набыць "Новую зямлю" змогуць, бадай, усе жадаючыя. Яе разам з не менш вядомай паэмай Я. Коласа "Сымон-музыка" выдавецтва "Юнацтва" выпусціла ў серыі "Школьная бібліятэка". Наклад дастатковы для таго, каб томік можна было набыць у кнігарнях.**

## Весяліліся гедымінаўцы

**29 ліпеня ў вялікай зале Лідскага дома культуры адбыўся рок-канцэрт. У канцэрце прымалі ўдзел два гурты з Ліды — "Нэма і "Барэй", а таксама адзін з самых папулярных беларускіх гуртоў "NRM". Канцэрт наладзілі сябры Згуртавання лідскай моладзі імя Гедыміна. У зале пераважала моладзь, якая прыхільна прымала ўсе кампазіцыі, але найбольш слухачам спадабаўся выступ гурта "NRM", гасцей з Мінска. У зале луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Сцягі міліцыянты не адбіралі, хоць і прысутнічалі ў зале — як заўсёды на такіх канцэртах. Моладзь весялілася, але парадак не парушала. Уражанне ад канцэрта засталося добрае.**

**Пасля для моладзі была наладжана дыскатэка.**

**Л. САЗАНАВЕЦ**

## Сабраліся на полі бітвы

**2 жніўня ў ваколіцах вёсак Малое Ольжава і Мохавічы, што за некалькі кіламетраў ад Ліды, адбыўся фэст, прысвечаны 135-ым угодкам паўстання Кастуся Каліноўскага. У полі паміж гэтымі вёскамі 135 гадоў таму адбылася бітва паміж паўстанцамі ды царскімі войскамі. З гістарычных крыніц ужо дакладна вядома, што ў той бітве прымаў удзел Францішак Багушэвіч.**

**Чацвёрты раз усе тыя, хто памятае аб тых падзеях, наладжваюць гэты фэст. Афіцыйныя ўлады сёлета ігнаравалі яго. Быў толькі прадстаўнік райвыканкама ды ўчастковы міліцыянт. Сабралася каля двухсот чалавек, прыехаў святар Белагрудскага касцёла ксёндз Рышард, які правёў набажэнства з нагоды ўгодкаў бітвы каля Малога Ольжава. Разам з ім на набажэнстве прысутнічалі два каталіцкія дзяканы, адзін з якіх на беларускай мове распавёў біблейскую прытчу пра тое, што кожны павінен несці свой крыж. Беларусі наканавана несці вельмі вялікі і цяжкі крыж, але, можа, гэты крыж не дасць нашай краіне зваліцца ў бездань?**

ПАЭЗІЯ

Ніл ГІЛЕВІЧ



# Сямірадкоўі

●

*Паэту на допыце вырвалі вока,*
*І вока, з далоні, глядзела шырока*
*На нелюдзяў-катаў — яшчэ не сляпое.*
*— Калі не прызнаешся — вырвем другое...*
*Паэта забілі... А я на свой лёс,*
*На ўсё, што ў жыцці пражыў, перанёс,*
*Гляджу і гляджу*
*ўсё тым вырваным вокам.*

●

*У чыстым белым ільняным уборы,*
*Дарогаю, што ў лужынах была,*
*У горад Маці крывічоў ішла*
*І думала, што падвязе каторы...*
*Але ў абмін імчалі ўсе аўто*
*І ў лімузін не ўзяў яе ніхто,*
*А кожны граззю наравіў абхляпаць.*

●

*Ты ў горкіх думах не карай мяне*
*За немату, няўвагу і няўдзячнасць.*
*Маўчу з табой, бо з Ёю гавару,*
*Бо знаю ўжо: калі ні пахіне*
*Мяне мой лёс — я за Яе памру.*
*У гэтым сутнасць існага і значнасць,*
*А ўсё астатняе — не больш, чым бачнасць.*

●

*Тарас Шаўчэнка, геній Украіны,*
*Сваю хацеў мець хатку, свой садок,*
*Свой дворык, свой пад вербамі ставок,*
*Сваё дзіцятка, каб узяць на рукі...*
*І ўсё жыццё канаў, згасаў ад мукі,*
*Што анічога гэтага не мецьме...*
*І нават не паслаў праклёну ведзьме.*

●

*Жыць успамінамі не так і блага.*
*Мне люб той міг, калі ў душу і сэрца*
*Вяртаецца п'янлівая, як брага,*
*Сустрэч з табой няўтоленая прага,*
*І даўні боль, па праву старасельца,*
*Вяртаецца ў калісь абжыты кут...*
*Так, добра жыць і памяццю пакут.*

●

*"Не крычы, беларускі паэт, не крычы! —*
*Павучае прыручаны крытык. —*
*Лепш сябе выяўляць у спакойцым ключы.*
*Для чаго надрывацца ад крыку?.."*
*Сапраўды, для чаго? Вырываюць язык?*
*Ну і што? Будзеш жыць без'языкім.*
*У сузор'і затое ў вялікім!..*

●

*Ах, каб цяпер у лес — падыхаць трохі*
*Журбой апалых лісцяў падапрэлых,*
*Сырой травой, вільготным духам моху,*
*Старой карой, распаранай на дрэвах,*
*Настоем зёлак на лясных сугрэвах*
*І ўсім такім, што, як віно, п'яніць,*
*Што ты, няздара, так не ўмеў цаніць!..*

●

*Не краў. Не грабіў. Хабару не браў.*
*Не злоснічаў. Даносаў не кляпаў.*
*Ну што яшчэ ў вас там? Якія шлеі?*
*Ах, верыў гэнаму, што ў маўзалеі?*
*Так, верыў.*
*Страшнае ўчыніў злачынства.*
*Карайце, мілыя! Тым больш, што ўсе вы*
*Жывеце годнасна, сумленна, чыста.*

●

*З ідэалізмам кончана, здаецца.*
*З ідэалістамі шчэ давядзецца*
*Канчаць, але, не заўтра — паслязаўтра,*
*І іх даб'юць з імпэтам і азартам.*
*А што далей? Ад новых дыназаўраў*
*Пачнем адлік —*
*і ў нейкі век імглісты*
*Ізноў народзяцца... ідэалісты.*

●

*А быў жа час, успамінае шкурка,*
*Пабітая ўжо моллю і з душком,*
*Калі я тут, яшчэ жывым шашком,*
*Была на службе ў нейкага прыдурка*
*І найпявучаму магла цішком*
*Зубамі глотку храпнуць, недарэку, —*
*На додніку, за міг да "ку-ка-рэ-ку!"*

●

*Скажы, паэт, ты, што з тугой і болем*
*У далячынь, за небакрай глядзіш:*
*Чаму ты ўсё пра смутак пішаш болей?*
*Чаму радком людзей не весяліш?*
*Ты ж гэта ўмеў! Што сталася з табою?*
*І што ты хочаш выглядзець, скажы,*
*На той — між небам*
*і зямлёй — мяжы?*

●

*Вам трэба знаць, чаго душа дрыжыць,*
*Чаму хачу я да вясны дажыць?*
*Каб пэўным быць,*
*што грушка прыжылася*
*І ў рост пайшла, а значыцца — па часе*
*Унук успомніць дзеда... Вось і ўсё!*
*Такая дробная, даруйце, мара.*
*Так мала трэба мне. Ганебна мала!*

●

*А ліпы ў прысадах, як калісь, цвітуць,*
*І пчолкі, як калісь, снуюцца, гудуць,*
*І лісце расою мядовай паблісквае,*
*Як калісь — у тое далёкае блізкае,*
*Калі ты зрывала лісток за лістком*
*І смешна лізала іх мёд языком,*
*Каб мог тую соладзь я й сёння адчуць.*

●

*Павольна і годна, на захадзе сонца,*
*Рагуля вяртаецца з поля... Вось-вось*
*Бабуля ёй скажа ласкавае штось,*
*І тут жа — зазвоняць цурочкі ў даёнцы.*
*На іхнія вечныя вечныя гукі*
*Збягуцца прыезджыя з горада ўнукі —*
*На дзіва глядзець і шчасліва чакаць.*

●

*Хоць тут, дзе высяцца ў суседстве цесным*
*Бярозы, сосны, ясені, яліны*
*А ўверсе — неба праглядае просінь,*
*Дзе ўчуўшы подых ветрыку лянівы,*
*Над сцежкай лісцем кратае арэшнік,*
*А сцежка скінуць чаравікі просіць, —*
*Хоць тут укленч і памаліся, грэшнік!*

●

*Злаба ўзыходзіць з першых крыўд дзіцячых,*
*З тых горкіх дзён, калі ты цёнгля бачыў,*
*Як іншых любяць, песцяць і галубяць,*
*Ну а цябе — цкуюць, ганяюць, лупяць...*
*Тады і ўелася, за дробкай дробка,*
*У фібры-клетачкі злаба, як порах,*
*Каб сёння помстай выбухаць раз-пораз.*

●

*Пытаеш, пра каго мы ў школе пелі песні?*
*Пра тога, што любіў*
*у сваім дачным лесе*
*Мурашнікі паліць, абліўшы карасінай, —*
*Рабіць для мурашоў Асвенцым з Хірасімай*
*І на іх смерць глядзець*
*як на злавесны сімвал.*
*А хто ж ён, што любіў*
*гульню-забаву гэту?*
*Вялікі правадыр усіх працоўных свету.*

●

*Вы, што цытуеце яхідна вершы*
*Паэтаў, шчыра ў рай зямны паверыўшых,*
*Скажыце: Вы даўно разумным сталі?*
*Вось іменна!.. Наіўнасць іх аберагшы,*
*Вы прапануеце ўзамен... Так-так!*
*Віншую, пане! Гэта верны знак,*
*Што ў вас ёсць тое,*
*чым вялікі Сталін.*

●

*Мужы мастацтваў і навук!*
*Ну хоць нарэшце,*
*Ну хоць на старасці,*
*ну хоць перад сашэсцем*
*У царства ценяў, у абдымкі продкаў —*
*Ачніцеся, апомніцеся, схамяніцеся,*
*Паспавядайцеся, пакайцеся*
*ды ўзмаліцеся:*
*"Даруй нам, Госпадзе, не ведалі,*
*што робім,*
*Што разам з мовай мы і род свой гробім".*

●

*Паны жандары, чулі навіну?*
*Во гэты — волі прагне! Ну і ну!*
*Ад абурэння — аж мяне трасе:*
*Ён хоча дыхаць — вольна, як і ўсе!*
*Халуй і лёкай! Я табе дыхну!*
*Я так дыхну табе, што і не вякнеш!*
*Страшней, чым калісь прадзед мой —*
*твайму.*

●

*— Чаму ты на радку няцотным сёмым*
*Свой верш нязвыкла абрываеш зломам?*
*Уражанне — як ад таго вяселля,*
*Якога ўсе чакалі, а нявеста —*
*За дзень да шлюбу уцякла з сямейства...*
*— Дык так і ёсць, брат!*
*Я тут — не наватар.*
*Ва ўсім вяселле тое вінавата.*

*1998, травень-ліпень*

ПРОЗА

*(Заканчэнне. Пачатак у № 32)*

3

Прайшоў год і адзін месяц — пасля допыту ў Юстыны ў Сушкаве яна цяпер чакала вестак і лічыла кожны дзень, а то і кожную гадзіну, — калі якраз у такую, як і тады мяцеліцу з маразамі ў хату недзе ў паўдні бразнула клямкай Магрэта з Сушкава, прыветлівая жанчына гадоў сарака — калгасная пісьманоска. Прыехала на МАЗе ў кабіне аж з Крайска — з пошты. Па такіх гурбах і марозе добра што хоць раз у тры дні азывалася. Аддала пісьмо, нават не сказаўшы адкуль яно — перш дык гаварыла, адкуль пісьмы, — і хуценька за дзверы. Не пагрэлася нават.

— Ды не, сястрыца, пабягу адразу. Я і не змерзла нават, у кабіне седзячы. Пабягу да маста. Вот-вот першыя машыны з дрэвам назад пойдуць, я ўжо ведаю. І шафёры мяне ведаюць, бяруць у кабіну. Загібець можна ў такі мароз...

Зноў бразнула клямкай, і пакуль зачыніла дзверы, з-за парога аж да стала пакаціўся клубком мароз.

Александрына пачула, як яе пачало трасці ад гэтага клубка... Яна стаяла, апусціўшы пісьмо ў руцэ, баялася нават падняць яго да вачэй і думала, што трасе ад пісьма, трасе ўсю і пісьмо ў руцэ трасецца.

Пайшла ў другую палавіну, села на крэсла ля засцеленага белым абрусом стала — якраз пасярод хаты, — узяла з яго Вольчыны акуляры — ляжалі на ім як на паяўку ў жоўтым футляры — тыя падыходзілі і ёй, Александрыне: абедзве былі дальназоркія — і ніяк не магла ўскрыць канверт: усё трасуцца рукі...

Канверт адклеіўся лёгка — відаць, Магрэта сама ўжо ўсё прачытала, калі нават не захацела пачуць, "што пішуць", і Александрына хуценька разгарнула складзеную ўчэцвера белую-белую паперку з чорнымі літарамі — кучкай — злева ўверсе. Яны адразу кінуліся ў вочы.

Яна хапалася пальцамі то за белую паперыну, то за акуляры, — спаўзаюць і спаўзаюць з носа, але ў іх добра было чытаць — кожную літарку як хто падносіў да самых вачэй.

Военный трибунал
Белорусского Военного округа
31 января 1958 г.
N...
гор. Минск

Ніжэй, пад чорнай кучкай літар, яна прачытала:

Справка

Дело по обвинению Пташник Сельвестра Лазаревича пересмотрено Военным трибуналом Белорусского Военнаго Округа 28 января 1958 г.

Постановление от... 1937 г. в отношении Пташник Сельвестра Лазаревича отменено и дело за отсутствием состава преступления прекращено.

Пташник Сельвестр Лазаревич реабилитирован посмертно.

Зам. председателя Военного трибунала Белорусского Военного Округа.

І подпіс у канцы. Яна ўчапілася вачыма, не ведаючы чаму, адразу за гэты крывы подпіс. Знаёмае, вельмі ж знаёмае прозвішча. Яна чула яго.

Пасля яна ацíхла: ёй пачало рабіцца ўсёй горача. Гарэць агнём шчокі, як ад чалесніка. Тады зноў пачалі стыць плечы.

Ніякага знаёмага прозвішча яна не ведае... А тое, што Сяльвестры няма даўно жывога — цяпер ужо ведае... Цяпер нават пра тое ў паперы напісана...

Яна зняла з носа акуляры, паклала на абрус на стале, не хавала ў футляр — будуць яшчэ доўга чытаць і яна, і Волька, паклала ля іх пісьмо: канверт асобна, белы ліст з чорнымі літарамі асобна і сядзела на крэсле, не варушачыся, то гарачая, то халодная і пустая...

Дваццаць гадоў яна помніла, што Сяльвестры няма, але ўсе дваццаць гадоў думала, што ён жывы. Помніла, але не памінала... А трэба было памінаць... Аж дваццаць гадоў...

Яна сядзела на крэсле, апусціўшы рукі, глядзела на сцены, пабеленыя глінкай, на вокны, на белы снег за імі. Калі ж усё гэта, як у яму, знікала, яна ўпіралася вачыма ў шырокае лісце фікуса, у партрэт у рамцы на сцяне, у ходзікі і ў чорную круглую каробачку радыё.

І ходзікі, і радыё маўчалі...

У вачах то белае, то чорнае... І слёзы з воч... Самі цяклі руччом, самі перасыхалі, пасля зноў цяклі...

І так, мусіць, да вечара. Яна не помніць.

Калі ззаду ў першай палавіне хаты бразнула клямка і загаварыла, вярнуўшыся з работы, Волька, было ўжо цёмна: і ў хаце, і на дварэ...

Ёй здалося спачатку, што да яе зага-

варыў Сяльвестра — з глухой цемені і пустаты...

4

Вясна была позняя, халодная і — ўсё дажджы. І днём і ноччу. Адхнуць і — зноў. Адна гразь — і на вуліцы і ў гародзе. Чуць пасеялі яго. І ля ракі, і за вуліцай. У самы дождж — халодны, золкі, як увосень.

Сеяць гарод прыехаў памагаць Аркадзя. Чытаў пісьмо з чорнымі літарамі ўверсе і доўга, трымаючы яго ў руцэ, хадзіў на хаце — узад-уперад.

Перагаварылі за гэты час, перавярнулі ў памяці ўсё, як гарод усё роўна перакапалі... Аж на душы стала лягчэць.

Паехаў Аркадзя, а дажджы не сціхалі, і ў душу зноў варочалася скруха. Каб хоць не мокрая нудота на дварэ... Здавалася, што так будзе да канца свету...

Але аднойчы раніцай расчысцілася неба — ні хмурынкі, ні белага туляжка, — стала празрыстае і ядранае, і адразу

пусціць усё на самагонку... У ведамасці табе выпісана тры пуды жыта. Зарплата Сяльвестры за два апошнія месяцы, калі ён рабіў у калгасе. Такое ўказанне ў кантору старшыні прыслалі. Больш ён тады не зарабіў за два месяцы, твой Сяльвестра. Хто лічыў? А хто яго ў чорта лічыў. Рашылі, вот, сабраўшыся, што тады больш за два месяцы ніхто не зарабляў. І сенакосу паўгектара выпісана. У Цяні, у балота, не павяду, а на Зурэччы, дзе пакінулі на працадні, ля крыніцы, адмеру сам, хоць заўтра... Дабавіш да свайго, што табе палагаецца і... А тры пуды палучы. Пусціш на самагонку — і скосяць, і зграбуць, і прывязуць...

— Нікуды я не хадзіла і не пайду. І вон з хаты... — сказала яна ціхенька, але Петражыцкі пачуў — у яго раптам шырака расплюшчыліся вочкі. І раззлаваўся.

— Дурная баба і не лечышся. Чорт з табой... Але на мне ты вісіш... Зноў мне загадана даставіць цябе і разлічыць...

востранькім канцом ручкі ў збалелае за ўсе гады сэрца...

Нешта ўсё гаварылі да яе Царук з Петражыцкім, але яна не чула што.

На загуменні ў калгасны свіран яна не пайшла. Вылезла з кабіны і стала на прытоптаным рудым падарожніку. Хоць забі. Не ідуць ногі.

— Не хадзі, матка. Усё зробім самі. Што, мех забылася? Знойдзем... — Царук гэта гаварыў да яе ці Петражыцкі, яна не магла разабраць. Стаяла, адвярнуўшыся ад свірна, дзе і вядрома бразгалі, і стукалі жалезам, і гаварылі наўзавады адзін перад адным, смеючыся і лаючыся, і глядзела праз ранішнюю смугу ў неба, дзе бегла насустрач хмарам сонца і не магло прабіцца праз іх... Недзе там, у самым канцы Хадакоў, даставаў аж да яго, да сонца, высокі новы драўляны геадэзічны маяк. На самым яго вострым версе сядзеў груган, чорны, цяжкі. Пакуль яна глядзела, ён зляцеў некуды

Іван ПТАШНІКАЎ

# ТРЫ ПУДЫ ЖЫТА

АПАВЯДАННЕ

запякло сонца, як дачакаўшыся свайго.

Лета пачалося гарачае і гарачыня стаяла аж да восені. Праз тыдзень мокрая зямля высахла і патрэскалася на сонцы, а тады падзьмулі сухія гарачыя вятры з поўдня — з Сушкава — і МАЗы падымалі на вуліцы і на грэблі хмарамі пыл. Пыл заносіў і гароды, і хаты, і ўсё Зурэчча — выган ля вёскі.

Сонца днём угары над Зурэччам маленькае і гарачае, вечарам у канцы вёскі вялікае і чырвонае. І туман над ракой чырвоны. І месяц чырвоны...

Толькі начная раса ратавала тое, што яшчэ расло, не згарэла. І так да самага жніўня, калі неба пачыналі засцягваць сінія доўгія палосы, варожачы на дождж, а Зурэчча і раку, і вуліцу — сівы вільготны начны туман.

Можа б жыццё пайшло, як і раней: трэба было ратаваць гарод, думаць, адкуль прынясці карове на зіму вязку сена, і пісьмо пачало ўжо забывацца. Ляжала ў канверце на стале на белым абрусе пад акулярамі на відку, як усё роўна яго яшчэ рана было хаваць.

Але яна не брала яго ўжо так часта ў рукі. Ідзе каля стала, стане, пастаіць і пойдзе далей — чакала работа.

Можа б, пісьмо і забылася, калі б зноў аднойчы пад вечар не забеглася Магрэта, прынёсшы дзве газеціны: і мінскую, і сваю, раённую.

— Зімой мерзлі, а цяпер гарым. Па такой гарачыні пакуль на пошту, ды назад... Добра, што "прычэпы" бяруць у кабіну, як зімой. — Магрэта спачатку, пасля таго, як прынясла тое пісьмо, доўга маўчала, з месяц, тады зноў разгаварылася — была з тых, хто за языком бегчы не паспяваў — і сказала раз, што тое пісьмо было адклеена яшчэ на пошце. — Яшчэ на пошце тваё звяшчэнне чыталі. Усунулі нос... А ты, сястрыца, пазней усіх дазнаешся пра ўсё. І цяпер — усе бабы, якім папрыходзілі пісьмы, ужо даўна палучылі за мужыкоў выплату. А ты нават у канцылярыю не сходзіш. Хай Волька збегае, спасылай, ці Петражыцкага прыпры да сцяны. Ці, можа, ты не хочаш палучаць тое, што паложана? Нешта ж мала яно за мужыка... Ты, відаць, не хочаш, гордая. Ну, не хочаш — як хочаш...

Магрэта бразнула дзвярыма і пайшла. Капнула на жывую рану і ўжо лапоча на вуліцы...

І рана ажыла: сціснула ў грудзях і кальнула ззаду пад левую лапатку. Да горла падступіла лёгенькая блага...

А ўслед за Магрэтай — Петражыцкі, як згаварыліся. Закудахталі ля ганка спалоханыя куры, і ўжо ён стаіць у парозе, на тым самым месцы, дзе і тады зімой. Сівыя валасы рассыпаны па галаве, маленькі чырвоны носік аблупіўся, згарэўшы на сонцы, шчокі бурыя, вочкі сівыя і іх зусім не відаць — п'яненькія, плюшчацца...

— А я думаў, што ты знала ўсё і маўчала. У вёсцы це пад кожны камень вада падцячэ, а плёткі—пад ко-ожны. Хі-хі... А тут пісьманоска кажа, што ты не знала. Не хочаш, відаць, браць. Ты баба цвёрдая. Ды яно, калі... — Петражыцкі стаў згінаць і разгінаць перад сабой рукі. — Але ж з другой стараны яно... Калі Старшыні аж адтуль загадана, а ён — мне. І ён з мяне не злезе. А я — з цябе... Адумаешся — заўтра раніцай я з Царуком еду ў Хадакі, у канцылярыю. Вольку пашлі, калі сама... такая... Старшыня сам бы табе прывёз тваю кампенсацыю. Даўно. Але ён цябе ведае. Баіцца, як чорт крыжа... Каб ты ім жытам у вочы яму... Хі-хі... Дурная баба. Выгнала б самагонкі...

Яна не паспела спіхнуць яго з парога ў сенцы, — справіўся зачыніць за сабой дзверы.

Да калгаснай канцылярыі ў Хадаках яны: Александрына з Царуком — шафёрам — у кабіне, Петражыцкі ў кузаве, — сказаў, злазячы, што саступае ёй, пажартаваў, што яна за гэта "разлічыцца, хі-хі..." — пад'ехалі яшчэ свежай ранічкай — Царук спяшаў, — і ўсе трое падаліся калідорчыкам у кабінецік да старшыні. Дзверы былі на замку. Тады Царук шырака адчыніў дзверы ў "агульную канцылярыю" да "дзевачак". Дзевачкі былі на месцы. Стаялі, нагнуўшыся над сталом: адна з аднаго боку, другая з другога — склалі галовы. Бліжэйшую Александрына пазнала адразу — новы рахунквод, а другую, маладзенькую зусім дзеўчынёху, яна не ведала.

Незнаёмая дзеўчынёха, павітаўшыся, узяла са стала ключы — цэлы жмук, апусціла з бразгам у кішэню чорнага, як смаль, халата і сказала:

— Ведамасць у мяне. Старшыня загадаў мне, кладаўшчыцы, адпусціць, калі прыедзеце. Без яго... Можа, вы, цёця, і распішацеся тут, у канцылярыі. Што насіць ведамасць туды-сюды... —Яна хуценька перакінула шырокую ведамасць з аднаго стала на другі, бліжэй да яе, Александрыны:

— Вот здесь, внизу. В уголочке...

Александрына пачула, як у яе зноў пачалі мерзці пальцы на руках, як на допыце ў хаце ў Юстыны... Калі яна першы раз дазналася, што за Сяльвестру даюць жыта і сена, яна і тады сцялася ўся ў халодны камень... "Не вазьму. Адкупіцца хочуць. У тры пуды жыта ацанілі чалавека... І вязку сена — наверх... Сярнічку пад тое сена, хай гарыць сінім агнём разам з жытам..." Не было з кім і пагаварыць. З Петражыцкім? З Магрэтай? На яе, Александрыну, глядзелі, як на дурную: бяры. Аркадзя далёка. Загаварыла была з дачкой, з Волькай. "Як, мама, рошыш, так і будзе", — апусціла вочы дачка.

Да сённяшняй раніцы яна і была, як камень. А доднічай, калі хадзіла па двары, калі грукала рагамі ў сцяну ў хлеве карова, калі пад ногі пускаліся бегчы куры, калі ў вёсцы яшчэ не было чуваць ніводнага чалавечага голасу, толькі на рабіне на вуліцы каркалі вароны, яна неяк суцішана сказала сабе: пакуль буду палучаць жыта — буду разам з Сяльвестрам... І пакуль буду касіць Зурэчча — буду разам з ім... разам... А там — калі вытрымае сэрца...

— Что же вы, тетя, молчите? Вот здесь, в уголочке. Возьмите ручку...

Яна ўзяла з рук у незнаёмай дзеўчынёхі маленькую-маленькую чырвоненькую ручку і распісалася там, дзе ёй паказвалі пальчыкам. Як укалола сябе яшчэ раз

ўніз, і на яго месца адразу сеў другі...

На загуменні ля свірна на зрудзелым падарожніку ля самых яе ног ляжала вялікая чырвоная з вострым шчарбатым грэбнем куча ўгнаення — прывязлі яго і ссыпалі летась увосень. Пад дождж. Чырвоная куча з вострым верхам узялася ў камень...

Яна стаяла і стукала аб кучу — аб чырвоны камень — абцасам гумовага бота, аж пакуль не загаварыў да яе Петражыцкі, несучы на плячы, нагнуўшы на бок галаву, белы вузкаваты новы поўны і цяжкі мех.

— Самае лепшае, суседка, адборнае. З-пад камбайна. Насенны фонд... І мяшок калгасны. Вернеш мне. Хаця, можаш і не варочаць, расчытаемся... — ён і тут набіваў сабе цану: закідваў наперад. — Я астаюся, мне пільна трэба старшыня. А калі ён будзе... Залазь у кабіну на маё месца. І — кляпі касу. Заўтра падыду і адкіну цэлага паўгектара...

Мяшок з жытам мужчыны ўскінулі ў кузаў і прытулілі стоймя ў куточку ля самай кабіны.

У кабіну яна не села, хоць яе прасіў і Царук. Сказала, што не любіць смуроду...

— Ну і баба... — крычаў здалёку, ідучы ў канцылярыю Петражыцкі. — Ці ты, Сяльвестрыха, занадта разумная, ці зусім дурная... А касу, баба, кляпі...

Царук памог ёй падняцца на кола і перакуліцца праз борт. Яна хацела спачатку сесці на мех, пасля падумала, што робіць нешта не тое, што на гэта жыта грэх садзіцца. Як усё роўна на Сяльвестру... У кузаве, бліжэй да кабіны, было накідана ладна саломы. Яна стала ля мяха на калені на салому і ўзялася рукамі за борт, каб не надта кідала.

З загумення ехалі полем, і здалёку была відаць грэбля. Па гэтай грэблі і павезлі тады, восенню, Сяльвестру... Ноч была чорная, і машына чорная, і грэбля, як сажа. І цёмна — нават фары ў машыне не ўключалі...

Па дарозе з Хадакоў перад самай грэбляй былі могілкі, на дзве вёскі — Задраздзянскія і Сушкоўскія. Перад выездам на вясковую дарогу, ля самых могілак, Царук на якую мінуту спыніўся, і яна, глядзячы на могілкі, падумала, што каб Сяльвестра памёр дома, сваёй смерцю, да яго можна было б схадзіць на магілу ў любы час...

Царук, ціхі калгасны шафёр, недзе равеснік Петражыцкага, толькі той сівы, а Царук чорны, кучаравы, адчыніў дзверцы і стаў на падножку:

— Можа, сядзь, Сяльвестрыха, лепш у кабіну... А то стыдна ад людзей. Сам адзін сяджу ў кабіне, а...

— Не трэба. Мне тут добра. Пабуду з ім, з Сяльвестрам... — сказала яна і падумала: сказала, мусіць, адрэчы — Царук добры чалавек, а вунь што падумае...

Дома Царук занёс, узяўшы з машыны на плечы, мех у хату, паставіў у парозе на канец услона і адразу падаўся за парог. Яна хацела яшчэ зладзіць яго за крысо, каб хоць дзякуй сказаць, але ён усё роўна як збег з хаты, толькі дамахаў каля вушэй рукамі.

Дзверы пасля Царука так і засталіся расчынены.

У той палавіне на стале пісьмо... У гэтай на лаве мех з жытам...

І там, і тут — Сяльвестра. Дома: і ў адной палавіне, і ў другой...

І яе ахапіла такая гарката і немата, што яна зноў апусцілася ля мяшка на калені і, ашчапіўшы галаву, закрычала нема — на ўсю хату, на ўвесь двор, на ўсю вёску...

Яе голас пачулі куры і збегліся ў хату з усяго двара да мяшка — думалі, што яна кліча іх карміць. Абступілі і, пазадзіраўшы галовы, глядзелі на яе...

5

Звініць на падсохлай, перастаялай за лета балотнай мятліцы новая бліскучая фінская каса-васьміручка, тая, якую сама купіла ў Плешчаніцах, сама асадзіла, сама ўчора вечарам кляпала на старой вялікай бабцы, што тырчала ў чорнай дубовай калодачцы ў свіронку. На ёй яшчэ кляпаў косы Сяльвестра. Душылі слёзы — цякуць сёнтя і цякуць — капалі на прыржавелую бабку, крывавячыся.

Касу ёй браўся наклапаць Царук:

— Пачакай, Сяльвестрыха... Выдасца некалі свабодны вечар... Куды ты сама са сваёй мятровай васьміручкай... А там — і скосім.

— Не. Я сама. Забылася ўжо, як мы, бабы, і ў вайну, і пасля вайны... І Кратоўку, і Зурэчча, і Цяні, і Карчаваткі скошвалі... Падаткнём падалы пад пояс і... Я сама.

Звініць васьміручка і шапоча мятліца, кладучыся ў пакос. Выспела, абмалацілася на ветры, адны пустыя мяцёлачкі падаюць з разгону ад касы пад ногі.

Адстаяла сваё за лета трава-мятліца і цяпер пустая. Як і яна, Александрына...

З мятліцай кладзецца ў пакос ржавая ад старасці і балотнай твані сінюха, хвошч і асака, на вільготным месцы высокая, аж у пояс. Пад імі бабок і рабінка. Перакручаная дагары касой, яна бялее на сонцы і пахне. На ўсё Зурэчча, як кмін дома на ўвесь гарод...

З гарода ўчора раніцай да яе і прыйшоў Петражыцкі — яна бачыла праз акно, як ён пераходзіў рэчку, — прыйшоў аж у хату з меркай-сажнем на плячы:

— Ну, суседка, я гатоў... Пойдзем, адкіну твайго законнага паўгектара. На сушэйшым... На мурагу... Ад Сушкава, ад крыніцы. А захочаш — крыніца не граніца. Я гатоў... — пастукаў ён рукой па сажні.

— Яно і відаць, што гатоў... Калі з ражном на плячы аж у хату прынясло...

— Суседка, а можа... — збедніўся ён. — Няўжо я цябе тады зімой дарма на вазку ў Сушкава вазіў? Аскупела, суседка...

— Ты ж ужо на нагах чуць стаіш і мяне яшчэ некуды збіраешся вясці? Вочкі ў цябе ўжо самі пахаваліся... Хаця, табе хоць сцы ў вочы, будзеш казаць, што дождж ідзе. Не наражайся...

— Ай, суседка, заводзішся... Я не пакрыўдзіўся. Я цярплівы. Пачакаю, адпусцішся. Пайшлі тады, мне загадана. Ражна гэтага, — пастукаў ён яшчэ раз па сажню, — можам не браць. На вока адкіну твайго паўгектара. А то — колькі захачу. Сыдземся...

— Лішняга я не хачу і не вазьму...

Ідучы ўчора раніцай з ім на Зурэчча, яна перайшла раку па кладцы, ачэсаным бервяне з поручнем, — ляжала якраз проці іх гарода, у канцы, Аркадзя летась паклаў, — Петражыцкі на кладку не пайшоў. Перацёпкаўся ў гумовых ботах па мелкай вадзе, — усё падымаў угару мерку, як падаваў ёй, каб яна, Александрына, яго за гэту мерку трымала. А то — носам паляціць у ваду.

У самым канцы Зурэчча, якое збіраліся разбіваць на шнуры — дзяліць людзям на працадні, якое сяк-так уберглі за лета ад беглай жывёліны, не надта туды пускаючыся са скацінай. — Петражыцкі ішоў з меркай, перакідваючы яе, як кульгавы нагу, ад рэчкі аж да асушальнай канавы, што цягнулася ад Сушкава, ішоў паволі, як шкадуючы.

— Адзін мурог... Шафран... Я не скупы. А за крыніцай — зямля нітральная. Я вочы заплюшчу...

— Ды адчапіся ты ад маёй галавы... Рабі тое, што табе загадана. — Яна ішла за ім проста так, каб не стаяць на месцы: душыць нейкая гарачыня і ўсё.

Яны адтапталі ад самай рэчкі да канавы па траве мяжу і заламалі ў канцы альшэвіну: зрабілі знак. А над імі, чапляючыся крыллем за галовы, лёталі кнігаўкі — дзве — і пішчалі на чым свет стаіць.

Шарх... — шаркоча і звініць па дудзі цяжкая фінская васьміручка, цягне ўніз без прывычкі рукі і, вострая, як брытва, рэжа пад сабой мох; сінюшку з казламі і высокай белай дзяцельніцай злізвае лёгка і мякка, што карова языком.

(Працяг на стар. 12)

## Па праву лічыць сваім



Клімавіцкі народны хор, якому спаўняецца 50 гадоў, яго мастацкі кіраўнік Леанід Іосіфавіч Ячнеў па праву лічыць сваім. Ён не толькі кіраваў хорам усе гэтыя гады, ён яго ствараў, збіраючы ўдзельнікаў па прадпрыемствах горада, пастаянна папаўняў і абнаўляў калектыў, падбіраў яго рэпертуар. Дастаткова сказаць, што ўласна ім на вершы як сталічных, так і мясцовых аўтараў напісана каля ста песень. А такія з іх, як "Сад-вінаград", "Гарошына" і многія іншыя, пяюцца сёння ў Беларусі і Расіі, Украіне і Казахстане, Польшчы і Германіі. Не дарэмна ж ганаровае званне "народны" хору прысвоена чвэрць стагоддзя таму, і яго кіраўнік стаў заслужаным дзеячам культуры Беларусі.

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

## Майстра пейзажнага жанру

*У Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Прашнікава адкрылася выстава жывапісца, мастака-пейзажыста Валерыя СІДОРКІНА.*

Валеры родам з вёскі Галавачы Буда-Кашалёўскага раёна. Вучыўся ў рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве, потым — на аддзяленні жывапісу Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер — Акадэмія мастацтваў). Амаль адразу пасля заканчэння прыязджае ў Мазыр. Тут і праявіўся яго талент мастака-пейзажыста. Мабыць, самі мазырскія краявіды, якія нездарма называюць "швейцарскімі", паспрыялі мастакоўскаму самавыяўленню Валерыя Сідоркіна.

Валеры свядома арыентуецца на багацейшы вопыт мастакоў рэалістычнага пейзажнага жывапісу. У гэтым нядаўна мелі магчымасць пераканацца шматлікія прыхільнікі выяўленчага мастацтва, якія сабраліся на адкрыццё персанальнай выставы Сідоркіна. Мастак свядома імкнецца ўвасобіць не проста вечар, а наступленне вечара, не проста ноч, а яе надыход, не проста навальніцу, а яе набліжэнне... Пагадзіцеся, што гэта задача складаная. Няпэўнасць святла і няпэўнасць змроку не толькі перадаць — улавіць нялёгка. Адна з карцін так і называецца — "Прыціхла". Неба яшчэ пагрозліва зніжаецца навальнічнымі хмарамі, але нібыта стамілася і сцішылася на нейкі час. Дакладнасць кампазіцыйнай пабудовы, каларыту, псіхалагічнай затоенасці — усё падпарадкавана задуме мастака. Такое ж адчуванне застаецца ад карціны "Снег растае": прастора знікаючай зімы і светлыя ствалы бярозавага гаю, густы блакіт пакручастай ракі і нізкае, шараватае неба.

Што ж датычыць Мазыршчыны, то яна маляўніча прысутнічае ледзь не на кожнай карціне Валерыя Барысавіча ў светлагорскай экспазіцыі. "Мазырскія ўзгоркі", "Пачатак лета", "Мазыршчына", "Свята-Міхайлаўскі сабор Мазыра", "Поўдзень", "Прыпяць", "Вечар на Мазыршчыне" — пералік можна доўжыць.

Сярод настаўнікаў Валерыя Сідоркіна такія майстры пейзажнага жанру, як В. Цвірка, В. Грамыка, Л. Шчамялёў. Глыбока цікавіцца мастак і вопытам рускіх пейзажыстаў: эпічным размахам Шышкіна, лірычнасцю Саўрасава, драматызмам Васільева, сузіральнасцю Паленава, псіхалагізмам Левітана...

Аднак экспазіцыя твораў Валерыя Сідоркіна складаецца не толькі з пейзажаў. Прысутнічае і жанравая карціна "Поўдзень", шэраг партрэтаў ("Віктар Дубрава", "Дачка" і іншыя), шматлікія нацюрморты ("Пад мірным небам", "Бэз" і іншыя). Талент яго шматабяцальны. Аб гэтым шчыра гаварылі на адкрыцці выставы мастак з Гомеля У. Кароткі, старшыня гарадскога Савета народных дэпутатаў У. Купрэеў, намеснік старшыні гарвыканкама А. Найдзёнаў, старшыня райкама прафсаюза работнікаў адукацыі І. Макарэцкая, дырэктар рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва М. Міхалькевіч і іншыя.

Для шаноўных гасцей, для шматлікіх прыхільнікаў выяўленчага мастацтва спявала Вольга Бабій. І як заўсёды былі кветкі, памятныя падарункі. Свята ёсць свята.

І. КАТЛЯРОЎ

ЮБІЛЕІ

***Сам сабе здзіўляюся і зайздрошчу: жыву ў той час, калі побач працуе чалавек, які бачыў маладога Шастаковіча, размаўляў з Маркам Шагалам, слухаў Генрыха Нейгауза і Мікалая Галаванава, хадзіў на спектаклі МХАТа, быў знаёмы з акцёрамі той колішняй легендарнай трупы. І што мяне зусім уражвае — вучыўся ў пляменніцы Роберта Шумана.***

***Падчас падрыхтоўкі гэтай публікацыі мне пашчасціла некалькі разоў сустрэцца з ім — вядомым кампазітарам Анатолем Васільевічам Багатыровым. Перад першай сустрэчай троху хваляваўся, бо гутарыць раней не даводзілася і наогул нас ніхто не знаёміў. Да таго ж, Анатоль Васільевіч цяжка перахварэў і ўзрост мае сталы — а тут яшчэ госць са сваімі пытаннямі...***

***Але ўсё адбылося вельмі добра, мы размаўлялі, як быццам даўнія знаёмыя. Анатоль Васільевіч, адклаўшы сваё настольнае чытанне — "Графа Мантэкрыста", расказваў пра сваё жыццё...***

# Жывая легенда

### АНАТОЛЮ БАГАТЫРОВУ, НАРОДНАМУ АРТЫСТУ БЕЛАРУСІ, ЛАЎРЭАТУ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ, ПРАФЕСАРУ, АДНАМУ З ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМПАЗІТАРСКАЙ ШКОЛЫ ЎЧОРА СПОЎНІЛАСЯ 85 ГАДОЎ

Музыкай ён пачаў займацца з 8-і гадоў, у родным Віцебску, у Таццяны Канстанцінаўны Кох, выхаванкі Пецярбургскай кансерваторыі.

**— Шмат чаму навучыла яна мяне, — расказвае А. Багатыроў, — і калі паступаў у музычную школу, нават іграў Сяргея Пракоф'ева: на той час гэта быў малавядомы кампазітар, але густ настаўніцы ацаніў будучую славутасць. У музычнай школе я атрымаў добрую адукацыю і скончыў яе, падрыхтаваўшы канцэрт Арэнскага ў класе Яўгеніі Раманаўны Шуман, пляменніцы вядомага нямецкага кампазітара. Яна прыехала ў Віцебск разам з Мікалаем Малько, дырыжорам пецярбургскага Марыінскага тэатра. Ён у 1918 годзе ўзначаліў Віцебскую народную кансерваторыю і сімфанічны аркестр.**

**Дарэчы, як кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. У 1918 годзе ў Віцебск з Пецярбурга прыехала нямала вядомых дзеячаў рускай культуры. Іх прыгналі голад і рэвалюцыя. І гэтыя дзеячы рабілі істотны ўплыў на мастацкае жыццё губернскага горада. Але ж Віцебск, як вядома, — гэта радзіма Марка Шагала. На той час Шагал быў правінцыйны яўрэй, бацька хацеў, каб Марк ажаніўся з Ханай Гурвіч — мільянеркай, якая была на 20 гадоў за яго старэйшая. А ён кахаў маладую дзяўчыну і ажаніўся з ёй. Бацька яго ў сінагозе пракляў. Вось як у яўрэяў строга было... Памятаю Малевіча: ён добра заўсёды быў апрануты, быў шляхціц, добры касцюм заўсёды насіў.**

**Так, 5-6 гадоў Віцебск быў горадам мастакоў і музыкантаў. Ці не ўсе яны бывалі ў нашым доме, мы іх "падкормлівалі". Мая маці была намесніцай дырэктара дзіцячага садка, а бабуля забірала харчовыя адыходы, і мы трымалі двух кабаноў па 10 пудоў. На Каляды іх калолі, мяса хапала на ўсю зіму.**

**Славуты дырыжор Мікалай Малько — асобнае апавяданне. У 1929 годзе ён з'ехаў за мяжу, узначальваў Сіднейскі сімфанічны аркестр, які цяпер носіць яго імя... Дык вось, Малько быў сябрам нашага дома, мая маці брала ўрокі вакалу ў жонкі Малько, Вольгі Сцяпанаўны, якая была да гэтага салісткай Марыінскага тэатра, вучылася ў Паліны Віярдо. У Віцебску Мікалай Малько даў каля 250 канцэртаў. А калі ён у 1922 годзе перабраўся ў Маскву, мы кожны год ездзілі да яго, каб слухаць музыку. Чулі Няжданаву і Собінава, Клемперэра і Бруна Вальтэра... У 26-м ён запрасіў нашу сям'ю на прэм'еру Першай сімфоніі Дзмітрыя Шастаковіча. Бацька адмовіўся ехаць: я, кажа, і не такія канцэрты слухаў, а тут нейкі Шастаковіч...**

На тым канцэрце Анатоль Васільевіч пазнаёміўся з Дзмітрыем Дзмітрыевічам Шастаковічам — яму было тады 19 гадоў, а Багатырову 13, і потым сяброўства працягвалася.

Далейшая адукацыя А. Багатырова, адпаведна сямейнай традыцыі, павінна была праходзіць у Ленінградзе. Але воляй лёсу ён апынуўся ў Мінску.

**"Была сельскагаспадарчая выстаўка, — успамінае Анатоль Васільевіч, — я, маці і бацька паехалі паглядзець яе. Было лета, ішоў прыём у музычны тэхнікум, я вырашыў праверыць свае веды, зайшоў: ся дзяць Георгій Мікалаевіч Пятроў, Мікалай Ільіч Аладаў. Яны праверылі мяне, я добра адказаў на ўсе пытанні, бо ведаў гармонію, нядрэнна іграў на раялі. Яны мне кажуць: "Заставайся тут". Пятроў запрасіў да сябе ў клас, я згадзіўся і быў залічаны ў музтэхнікум. Выйшаў на вуліцу і кажу бацькам, што вытрымаў іспыт і ўжо студэнт тэхнікума. Бацька пакрыўдзіўся, што я парушыў традыцыю і не паехаў у Ленінград і адмовіў мне ў матэрыяльнай дапамозе.**







**Але я зарабляў грошы ў опернай студыі, дзе працаваў канцэртмайстрам. У 1932 годзе адкрылася кансерваторыя, куды мяне залічылі з 3-га курса тэхнікума. Спачатку вучыўся ў Аладава, а калі ў Мінск прыехаў Залатароў, — у яго. Васіль Андрэевіч Залатароў — выхаванец Мілія Балакірава (сувязь з рускай музыкай, традыцыямі "Могучей кучки"), жыў у яго дома, але развітаўся з ім з-за рэлігійных поглядаў. Неяк Залатароў сказаў мне: "Дурны я, з такімі людзьмі, як Рымскі-Корсакаў і Балакіраў, пасварыўся, такія людзі унікальныя!"**

Дарэчы, на унікальных людзей шанцавала і самому А. Багатырову. З якімі творцамі сустракаўся, і не проста сустракаўся, але і быў у сяброўстве! Маэстра Мікалая Галаванава ды спявачку Антаніну Няжданаву, напрыклад, называе лепшымі сябрамі. І ўспамінае:

**— Мы з жонкай кожны год на Вялікдзень бывалі ў іх. А яны першы раз былі ў нас на Вялікдзень у 1940 годзе. Цэрквы зачынены, куды пайсці маліцца, дзе правесці святочную ноч? Яны былі вельмі рэлігійныя. Папрасіліся да нас, кажуць: "Мы вам давяраем". Мы "злавілі" Балгарскае радыё і слухалі службу сабора Аляксандра Неўскага ў Сафіі. Мяне вельмі ўразіла, як яны ўкленчылі, калі хор пачаў спяваць: "Воскресение твое, Христе Господи", — гэта на пачатку хроснага хода. Пачалі яны маліцца. Няжданава пачала спяваць разам з хорам. Потым, калі пачуліся словы "И богатые и бедные войдут в царствие небесное", Няжданава кажа: "Мікалай Сямёнавіч, і багатыя таксама ўвойдуць!" Гэта было так сказана, так наіўна, з такой верай, нават цяпер памятаю. Бо яны ж былі багатыя людзі. З таго часу мы сталі вялікімі сябрамі. Яны казалі: "Вы павінны**

**бываць у нас на Вялікдзень". І першы раз мы былі ў іх у 1941 годзе.**

Выкладаць А. Багатыроў пачаў у гады Вялікай Айчыннай вайны ў Свярдлоўску, дзе быў прарэктарам кансерваторыі. Разам з ім працавалі Дзмітрый Кабалеўскі, Давід Ойстрах, Леў Аборын. Прыехаў у Свярдлоўск і Генрых Нейгауз, але рэктар не захацеў яго браць на працу, бо той, як казалі, "сядзеў на Лубянцы". А рэч вось у чым. Знайшлі нібыта загад Гітлера, у якім ён прызначаў урад на выпадак узяцця Масквы. У гэтым загадзе Генрых Нейгауз прызначаўся міністрам культуры. Вось яго і арыштавалі, Эміль Гілельс узяўся за яго хадайнічаць. Нейгауза вызвалілі, але саслалі ў Свярдлоўск. Урэшце загад аб залічэнні гэтага выдатнага музыканта на працу ў Свярдлоўскую кансерваторыю падпісаў прарэктар — Анатоль Багатыроў.

Ён жа дамогся праз абкам партыі, каб эвакуіраваныя сем'і музыкантаў пасялілі ў саўгасе: яны там троху працавалі і атрымлівалі бясплатнае харчаванне.

**— А ведаеце, як пазнаёміўся са старымі майстрамі сцэны МХАТа? Уцякалі з Мінска 24 чэрвеня 1941 года. Мы ішлі пешшу і сустрэлі мхатаўцаў, якія тым летам гастралявалі ў Мінску. Жанчын яны адправілі на машынах, а самі ішлі пешшу. Вось якія мужчыны! Масквін, Тарханаў, Качалаў. Мы ў дарозе пасябравалі, потым сустракаліся, калі я бываў у Маскве. Памятаю "капуснік": Тарасава іграла Вронскага, а Масквін — Ганну Карэніну! Ужо ў Свярдлоўску бачыў "Цара Фёдара" з Масквіным, нават цяпер хвалююся, без слёз не магу ўспамінаць, Геній... Але самы геніяльны быў Міхаіл Чэхаў. Я яго бачыў у Хлестакове... Калі прамаўляў ціхім голасам, кожнае слова было чуваць.**

**На жаль, — працягвае А. Багатыроў, — не адбылася сустрэча з Сяргеем Рахманінавым. У 1943 годзе аргкамітэт, у складзе якога я працаваў, рыхтаваўся сустракаць яго ў Маскве. Галаванаў рэпеціраваў Трэцюю сімфонію і "Сімфанічныя танцы". Сам Рахманінаў павінен быў іграць Другі канцэрт для фартэпіяна з аркестрам. Сустрэча не адбылася, неўзабаве ён памёр. Але канцэрт адбыўся — як вечар памяці Рахманінава. Тады ў Калоннай зале Дома Саюзаў мы ўпершыню слухалі Трэцюю сімфонію і "Сімфанічныя танцы", а Другі канцэрт выканаў малады яшчэ Святаслаў Рыхтэр.**

**Наогул, лёс багаты на розныя сюрпрызы. Напрыклад, ужо ў 1964 годзе, калі я прыехаў на прэм'еру "Кацярыны Ізмайлавай" Шастаковіча, пабачыўся з Генрыхам Нейгаузам. А вось за дырыжорскім пультам тады стаяў не хто іншы, як добра ўсім нам вядомы сёння Генадзь Праватораў...**

Нярэдка сваіх знаёмых музыкантаў Анатоль Васільевіч запрашаў працаваць у Мінск, калі стаў рэктарам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Напрыклад, Віктара Белага, з якім працаваў у Свярдлоўску, і якога пасля вядомай пастановы ЦК 1948 г. паздымалі з усіх пасад. Прафесара Віцінга "пераманіў" з Рыгі. Прыцягнуў і класнага спецыяліста Аляксандра Стагорскага — цяжкі быў чалавек, у Свярдлоўску нават рэктару не кланяўся. Анатоль Васільевіч удакладняе: "У Мінск ён наязджаў раз на месяц. Я троху сваволіў — аплачваў дарогу, гасцініцу за кошт дзяржавы, потым за гэта атрымліваў вымовы ад міністра, але ўрэшце ўсё сыходзіла з рук. А для кансерваторыі гэта было вельмі карысна. Замыканне на сабе — гэта няправільна. І калі скрыпач Цыганоў прыязджаў у Мінск на тры дні і атрымліваў палову прафесарскай стаўкі, дык ён за гэтыя грошы яшчэ і з выкладчыкамі нашымі займаўся".

Уражанні і сустрэчы, якіх багата меў А. Багатыроў за сваё жыццё, трапілі на добрую глебу. Ён уабраў у сябе ўсё лепшае, што атрымліваў ад кантакту з лепшымі прадстаўнікамі расійскай культуры, сінтэзаваў ва ўласным музычным досведзе. І ўрэшце — увасобіў у сваіх вучнях. Іх у яго шмат, і ўсе таленавітыя і адметныя.

Думаю, толькі чалавек высокага інтэлекту і эрудыцыі змог выхаваць такіх розных кампазітараў, як Генрых Вагнер, Эдзі Тырманд, Яўген Глебаў, Дзмітрый Смольскі, Андрэй Мдзівані, Сяргей Картэс, Ігар Лучанок, Уладзімір Солтан, Віктар Войцік... Вось няпоўны спіс вучняў А. Багатырова, выдатных беларускіх творцаў.

Я папрасіў Анатоля Васільевіча коратка сфармуляваць яго музычнае крэда. І ён сказаў так: "Няма гатовых рэцэптаў, каб сказаць: так рабі ці так. Бо трэба індывідуальна падыходзіць да кожнага, каго вучыш. Трэба вучыць на музычных узорах, слухаць больш музыкі, гутарыць пра кампазітараў і пра час. І трэба любіць не сябе ў музыцы, а музыку..."

**Аляксандр МІЛЬТО**

*На здымках: За работай. На сустрэчы з дзецьмі. На з'ездзе кампазітараў у Маскве: музыказнаўца Г. ГЛУШЧАНКА, кампазітары Л. ЛЯДАВА, А. БАГАТЫРОЎ, музыказнаўца К. СЦЕПАНЦЭВІЧ, кампазітары Д. КАБАЛЕЎСКІ, Ц. ХРЭННІКАЎ і мастацтвазнаўца А. ЛАДЫГІНА.*

*Фота з архіва А. БАГАТЫРОВА*

МУЗЫКА

# Глыток свежага паветра

***Сярод шматлікіх опер Гаэтана Даніцэці "Роберт Дзевера, ці Граф Эсекскі" для нас зусім невядомая. На Захадзе яе ставяць. Не так даўно запрашэнне ўзяць удзел у такім оперным спектаклі ў французскім горадзе Марселі атрымаў саліст Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі, уладальнік прыгожага лірычнага барытона Уладзімір ПЯТРОЎ.***



Ён лаўрэат пяці прэстыжных вакальных конкурсаў, у тым ліку імя Рымскага-Корсакава ў Санкт-Пецярбурзе, імя Барыса Хрыстава ў Сафіі. І найцяжэйшага творчага спаборніцтва лаўрэатаў у Монтэ-Карла, дзе на працягу пяці тураў трэба было выконваць арыі з опер, камерны рэпертуар розных напрамкаў і школ. Менавіта дзякуючы поспеху спевака на конкурсе ў Монтэ-Карла яго запрасілі ў Марсель, у оперны спектакль "Роберт Дзевера". Дарэчы, тамтэйшы тэатр не зусім звычайны. У яго штаце няма салістаў, іх запрашаюць з розных краін свету, а ёсць толькі хор, аркестр.

**— Узровень гэтага тэатра вельмі высокі, — расказвае Уладзімір Пятроў. — Кожны месяц новы спектакль і ўсё з іншымі вакалістамі. На гэтай сцэне выступалі такія вядомыя спевакі, як Марыя Гулегіна, Яўген Несцярэнка.**

Запрашэнне спяваць на гэтай прэстыжнай сцэне накладвае на выканаўца незвычайную адказнасць. Перад тым, як заняцца падрыхтоўкай цікавай лірыка-драматычнай партыі графа Ноцінгема, артысту трэба было здабыць клавір оперы. Дапамаглі яго знаёмыя, якія зрабілі копію з клавіра ў Маскве і прывезлі яму. Нарэшце У. Пятроў даведаўся, што дзея гэтай оперы адбываецца ў XVII стагоддзі ў Англіі ў час каралевы Елізаветы. Герой, якога мусіў увасобіць, — падмануты муж: даведаўся, што жонка здрадзіла яму з сябрам, і пачаў помсціць за зганьбаваны гонар. На жаль, нотны запіс быў нязручны для музычнага чытання, таму канцэртмайстар Таццяна Іванова, якая працавала са спеваком над партыяй Ноцінгема, звярнулася па кваліфікаваную параду да свайго педагога Э. Тырманд. Пазней артыст атрымаў і клавір з Марселя, "перакладзены" на сучасную нотаграфіку. А яшчэ, каб ведаць усё, што робіцца вакол ягонага героя, У. Пятроў звярнуўся па дапамогу да знаўцы стараітальянскай мовы, які пераклаў тэксты літаральна ўсяго клавіра.

Давялося папрацаваць над стылем кампазітара, яго эпохі. На думку Т. Івановай, прастата ў музыцы Даніцэці — уяўная:

**— Мы сабралі ўсе клавіры опер Даніцэці, якія былі ў бібліятэцы, вывучалі ягоную творчасць, стыль, манеру. Рыхтуючы партыю Ноцінгема, вялікую ўвагу надавалі гукаатрыманню, характэрнаму стылю Даніцэці, які пісаў высокатэсітурна, быў даволі бязлітасны да голасу. Вялікі вакальны адрэзак партыі ідзе ў шалёным тэмпе з верхнімі нотамі (з каларатурнай тэхнікай). Вельмі важна фізічна гэта вытрымаць, знайсці асаблівы прыём выканання, характэрную манеру бельканта. Гэта была складаная праца. Рэпеціравалі ў харавых класах, у якіх дрэнная акустыка і нялёгка спяваць. Уладзімір Пятроў цярпліва, нота за нотай шукаў гучанне. Ён вельмі хваляваўся і нікому не расказваў пра запрашэнне ў спектакль Марсельскага тэатра, за выключэннем галоўнага дырыжора Беларускай оперы Аляксандра Міхайлавіча Анісімава, які здабыў за мяжой кампакт-дыск гэтай оперы. Праслухалі. І зрабілі выснову: партыя Ноцінгема ў выкананні Уладзіміра Пятрова гучыць лепш, танчэй, зграбней, больш дакладна.**

Згадваючы спектакль, які адбыўся ў Марселі, У. Пятроў зазначае:

**— Мне спадабалася выканаўца партыі каралевы Елізаветы — амерыканская спявачка, лірыка-драматычнае сапрана. Выканаўца ролі Сары, жонкі майго героя, — мецца-сапрана з Германіі. Вобраз Роберта Дзеверы ўвасобіў італьянец, лірычны тэнар. Дырыжор, італьянец Тыцыяна Северыні, карэктны, тонкі, разумны чалавек, з вялікай павагай паставіўся да цудоўнай музыкі Даніцэці. Сярод публікі было нямала сапраўдных аматараў опернага мастацтва. Часам пабываць на тым ці іншым спектаклі спецыяльна прыязджаюць з Парыжа. Наогул публіка тут адкрытая, эмацыянальная, тэмпераментная. Спачатку людзі прыглядаюцца да артыста, а калі ён усё-такі спадабаецца, на працягу ўсяго спектакля выказваюць сваё захапленне, пачынаюць тупацець, крычаць, дораць кветкі, просяць аўтограф, фотаздымкі...**

У Марселі У. Пятроў меў нямала цікавых знаёмстваў. І гэтыя чатыры паказы ў Марселі оперы Даніцэці "Роберт Дзевера" былі для спевака, як глыток свежага паветра, як вучоба і творчае ўзбагачэнне.

**Вера КРОЗ**

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

ТЭАТР

## Анатоль ЛУЦЭВІЧ:

# "Я — чалавек прыроды..."

***Анатолю Васільевічу ЛУЦЭВІЧУ, аднаму з найстарэйшых купалаўскіх артыстаў — 60 год. У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ён ужо 35 год. Адна з улюбёных роляў — Крыніцкі з "Паўлінкі". Гэты спектакль быў абраны і для бенефісу, які адбыўся 16 мая на сцэне роднага тэатра юбіляра.***

**— Анатоль Васільевіч, вы ўжо шмат часу працуеце ў тэатры, а ці ж падлічвалі, колькі роляў выканалі?**

— Так, 35 гадоў — тэрмін не малы, большая частка жыцця. Дакладна не ведаю, не падлічваў, але, здаецца каля сямідзесяці. У асноўным — эпізадычныя ролі, але гэта былі цікавыя, яркія эпізоды. Што да значных роляў, дык іх у маёй творчай кар'еры было няшмат: гэта Мульцік з "Вечара" Дударава, Карп у "Лесе" Астроўскага, даўно іграю Крыніцкага ў "Паўлінцы".

Жаданне сыграць Гамлета не ўзнікала, бо я ведаў, — гэткую ролю мне не прапануюць. Тыпаж не той. Аб гэтым мог марыць, хіба калі быў студэнтам Тэатральна-мастацкага інстытута (сёння БелАМ).

**— А як вы трапілі ў артысты?**

— Адразу пасля школы я пайшоў на вагона-рамонтны завод, працаваў у кузні. Потым вырашыў пайсці вучыцца, нечым мяне прывабіла Магілёўская культасветвучэльня. Драматургію і іншыя тэатральныя прадметы выкладаў нам Валянцін Ермаловіч. Ставілі спектаклі. І аднойчы ён мне сказаў, маўляў, трэба ісці паступаць у тэатральны. Паступіў без асаблівых цяжкасцяў. Дарэчы, у той год быў даволі вялікі конкурс — 33 чалавекі на месца. У прыёмнай камісіі — Арлоў і Саннікаў. Напачатку я вельмі хваляваўся, але калі я выйшаў чытаць верш, крыху супакоіўся, бо пачуў, як Саннікаў зашаптаў Арлову: "Вось ён, вось ён..." Значыць, размаўлялі пра мяне. Зразумела, задавалі пытанні: "Дзеля чаго паступаеш вучыцца на гэтую прафесію?". Усе абітурыенты пачыналі казаць аб тым, як з дзяцінства марылі аб тэатры, што жыць без яго не могуць. Пасля майго адказу на гэта пытанне, камісія ледзь стрымалася каб не засмяяцца.

**— З-за чаго?**

— Я сказаў: "Бо на заводзе вельмі цяжка працаваць..." Калі паступіў у інстытут, дык у тэатр хадзіў, напэўна, як зараз глыбока веруючыя людзі ў царкву. Выходзіў адтуль узнёслы, ачышчаны. Усё хацелася хутчэй самому так пачаць працаваць. Скончыў інстытут, запрасілі ў тэатр.

**— А калі вы пачалі працаваць у тэатры, як да вас пачалі ставіцца сябры дзяцінства, знаёмыя?**

— Паважаць сталі. У той час мяне даволі часта паказвалі па тэлебачанні — розныя праграмы, запісы спектакляў. Дык усёй вёскай збіраліся ля экрана, каб паглядзець на мяне. У вёсцы людзі раней мелі невялікія грошы, а я ў той час якраз атрымаў ганарар за ролю Пастуха ў тэлевізійнай казцы. Спяваў у ёй. Дык потым швагер хадзіў па вёсцы і казаў: "От, за адну песеньку — 600 рублёў!" На што ўся вёска дзівілася: "Ай-ай-ай! Во, якія грошы Толя атрымлівае, чалавекам стаў".

**— А хто стаў вашым першым сябрам у тэатры?**

— Быў і па сённяшні дзень ёсць — Уладзімір Кудрэвіч. Мы заўсёды цікавыя адзін аднаму, ёсць аб чым пагаварыць. Пра нас нават кажуць: "Як быццам месяц не бачыліся", хаця кожны дзень сустракаемся. Дый і іншыя акцёры сталага ўзросту таксама маюць сябры.

**— Як на вашу думку, хто мусіць весці рэй у тэатры, акцёр ці рэжысёр?**

— На мой погляд — акцёр. Ён той, хто даносіць думку да гледача, а рэжысёр толькі дапамагае яму ў гэтым. Але апошнім часам пайшла іншая мода: усялякія сцэнічныя аздабленні (святло, дэкарацыя, музыка, розныя спецэфекты). Яны часам перакрываюць акцёра. Цяжкімі былі першыя гады ў тэатры. Калі я толькі прыйшоў, ролі давалі невялікія — масоўка, маленькі эпізод, адна-дзве рэплікі. Так мінуў год, другі, трэці.. пяты. Я хадзіў засмучоны. У той час тэатр паехаў на гастролі ў Гародню, а ў мяне — месяц адпачынку. Я шмат думаў, і вырашыў пакінуць тэатр, пайшоў працаваць на завод. Мінуў адпачынак, тэатр вось-вось павінен быў прыехаць з гастроляў (яны цягнуліся амаль месяц) і я... вярнуўся. Да сёння заняты ў вельмі добрых спектаклях!

**— Вы любіце жартаваць на сцэне?**

— Люблю, я вельмі смяшлівы. Такіх выпадкаў заўсёды даволі шмат адбываецца на спектаклях. Напрыклад, былі мы яшчэ студэнтамі заняты ў спектаклі "Рускія людзі". Ну, вядома адказна — такі тэатр. Сцяпан Хацкевіч іграў тут нейкага начальніка і яго забіралі, а я побач стаяў і павінен быў яго трымаць. У гэты момант адзін з акцёраў павінен быў з-за кулісы выйсці з данясеннем. Я амаль заблытаўся ў тканінных дэкарацыях і ніяк не мог выйсці. Я амаль стрымліваюся, пырскаю ў бок, а на руках у мяне Хацкевіч у выглядзе паміраючага. Пасля спектакля Хацкевіч запытваецца ў мяне: "Што гэта вы смяяліся? Я паміраю, а вы смеяцеся." Я спалохаўся і сказаў, што гэта я не смяяўся. "Як гэта не смяяліся?", — спытаў ён. "Гэта я так перажываў", — адказаў я. На што Хацкевіч мне сказаў, што мне ў другі раз трэба перажываць па-іншаму. У доме часам жартую, калі да мяне хто-небудзь прыходзіць. На сценах кватэры вісяць фота генерала, марскога капітана, вялізнага егера з вусамі — я ў розных ролях. Але некаторыя не ведаюць і запытваюцца ў мяне: "Хто гэта?" і паказваюць на генерала. Я кажу, што гэта мой брат, які загінуў пад Масквой. Я для весялосці гэтыя фота панавешваў. Люблю людзей, ніколі з імі не сваруся — лепш хай маё прападае, каб толькі не пасварыцца. Вось зараз узгадваю сваё жыццё: і сапраўды ніколі не сварыўся.

**— І з рэжысёрамі?**

— І з імі. Часам перацярплю, але каб толькі чаго-небудзь не сказаць, бо потым сам буду пакутаваць... Магчыма дзе-небудзь трэба было б быць настырам, нахабам, цяпер гэта можна, але ў мяне гэтага няма. Нават калі хваляць — няёмка. Часам цяжка на душы, прылягу на канапу, падумаю і становіцца зразумелым, што калі б прапанавалі памяняцца з кім-небудзь жыццём, дык не — не хацеў бы.

Я — добры, сямейны чалавек. Калі выдаецца вольны дзень-два, сядаю ў машыну і да сябе ў вёску. Люблю адпачываць на Нёмане. Бывае, ночы па тры там сплю ў машыне на прыродзе: ноччу зоркі зіхацяць, а раз дождж за ноч увесь луг затапіў, ледзь выехаў. Вось гэта я люблю!.. Я — чалавек прыроды...

**З Анатолем ЛУЦЭВІЧАМ гутарыў Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ**

*Дваццатыя гады нашага стагоддзя ўспрымаюцца ў дачыненні да гісторыі беларускай літаратуры і светла, і трагічна. Гэта быў перыяд адраджэння нацыянальнай культуры, час, калі ў ёй успыхнулі цэлыя сузор'і яркіх імёнаў, калі, здавалася, Беларусь на вякі сцвердзіць значнасць свае культуры ў свеце, якую ніхто ніколі больш не аспрэчыць. Калі многім сучаснікам, напэўна ж, верылася ў ідэалы сусветнай Камуны і ў дабратворнасць савецкай улады... Але дваццатыя — гэта і пярэдадзень жудасных трыццатых. Здаецца, што беларускай культуры быў дадзены час, каб вызначылася самае таленавітае і жыццяздольнае ў ёй толькі дзеля таго, каб знішчыць гэта лепшае, каб на доўгія гады вытаптаны, выкашаны луг ператварыўся ў пляц...*

*Любая частка гісторыі вызначаецца перш за ўсё асобамі, імёнамі. Дваццатыя гады... Пакаленне расстраляных, сасланых, замучаных... Не пра ўсіх з таго пакалення ёсць дакладныя біяграфічныя звесткі, не ў кожнага больш-менш поўна засвоена творчая спадчына. Не ўсе нават імёны — на слыху. А між тым, спытай у любога дачыннага да беларускай культуры чалавека ў тыя, дваццатыя, якія імёны, на яго думку, будуць сімвалізаваць для нашчадкаў сучаснае яму літаратурнае жыццё, — у адказ не магло не прагучаць імя — Валерый Маракоў.*

*Беларуская культура жывучая.*

*Як ні вытоптвалі яе, на стаптаным лузе выраслі новыя кветкі. І што, мажа, самае цудоўнае — заўсёды з'яўляюцца і будуць з'яўляцца людзі, якія лічаць сваім абавязкам аднаўляць гісторыю свайго краю, вяртаць з небыцця страчаную спадчыну. Часам займаюцца гэтым прафесіяналы, людзі, якія абралі гісторыю літаратуры сваёй прафесіяй — навукоўцы, архівісты, літаратары. А часам таямніцы гісторыі адкрываюць людзі зусім іншых прафесій, якімі рушыць толькі шчырая зацікаўленасць.*

*Нядаўна рэдакцыю "ЛіМа" наведаў менавіта такі энтузіяст, радыёінжынер па прафесіі Леанід Уладзіміравіч Маракоў. Ён — пляменнік паэта Валерыя Маракова, расстралянага ў 1937 годзе. На сённяшні дзень Леанід Уладзіміравіч сабраў, бадай, самы багаты, падрабязны фактычны матэрыял пра лёс і творчасць дзядзькі-паэта, іншых "маладнякоўцаў".*

*Прозвішча Маракоў для нашай газеты не чужое — Валерый Маракоў быў яе частым аўтарам, нават супрацоўнікам рэдакцыі. Сёння на старонках "ЛіМа" — гутарка з Леанідам МАРАКОВЫМ.*

# "Жыццё — як мора-акіян, а лёс мой — бура-навальніца..."

**— Леанід Уладзіміравіч, раскажыце, як, з чаго пачалася ваша праца па аднаўленні творчай спадчыны і біяграфічных матэрыялаў вашага дзядзькі? Напэўна, з дзяцінства вы ведалі пра існаванне сваяка-паэта, чулі сямейныя паданні пра яго, мелі пэўныя сямейныя рэліквіі?**

— Пра існаванне дзядзькі-паэта я амаль нічога не ведаў да нядаўняга часу. Даведаўся недзе года паўтара таму, зацікавіўся. Знайшоў першы зборнік дзядзькі — "Пялёсткі", які выйшаў, калі аўтару было 16 гадоў, і як я пасля аднавіў па дакументах, вершы, што ўвайшлі ў зборнік, напісаны паэтам у 14—15-гадовым узросце. І якую б страфу адтуль ні ўзяў — незвычайная для юнака глыбіня думкі, эмацыйная і сэнсавая насычанасць: "А за вакном снуюцца і танцуюць цені, Упаў срабрысты месяц на калені, Стаў цалаваць магільныя крыжы..."; "Зацвіла пад вакном маім белая даль, Налілася жыццём і каханнем"; "Пойдзем мы сягодня Ў пацерках агня"; "Нехта стаіць прад зарой на каленях, Выпіўшы сэрца разгул"... Мяне зацікавіла, хто ж яшчэ з беларускіх паэтаў выдаў зборнік такога ўзроўню ў 16 гадоў? Раіўся з навукоўцамі... Тыя ж паэты, што пачалі творчы шлях да рэвалюцыі, пісалі яшчэ ў вольным грамадстве. Валерый Маракоў, праўда, пачаў пісаць у часы НЭПа, калі яшчэ можна было тое-сёе незаідэалагізаванае друкаваць, але нядоўга — пачаўся перыяд задушэння вольнай думкі. Тым не менш у Маракова я не знайшоў ніводнага прасталінскага верша, у той час як практычна ў кожнага тагачаснага паэта яны былі, а часам складалі асноўную частку паэтычных зборнікаў.

**— Тым не менш, у Валерыя Маракова дастаткова радкоў, у якіх ён ухваляе савецкую ўладу, новыя рэаліі...**

— Амаль усе гэтыя радкі — плён дзейнасці цэнзуры. Магу праілюстраваць. У цудоўным вершы "Жыццё як мора-акіян" з'явілася страфа, якой няма ў рукапісе, — пра тое, як наш край "павядуць да ленінскае мэты"; апошняя страфа, якая выглядала так:

***Што ж мне Італіі цяпло,***
***І той спакой,***
***І сонца поўдню?..***
***Пад родны скрып тваіх калёс***
***Я песню родным сном напоўню, —***

пад пяром цэнзара набывае наступны "актульны" выгляд:

***Пад новы гул тваіх***
***Турбін***
***Я песні радасцю напоўню!***

Замест радка "І бераг мора будзе біцца" з'явіўся: "І шчасце зноўку будзе сніцца"... І такіх правак — не злічыць! На сённяшні дзень чытачу вядомыя ў пераважнай большасці скалечаныя вершы Валерыя Маракова. Так, ён сапраўды пісаў і "заказныя" вершы. Але і яны былі недастаткова "прававерныя"! Напрыклад, далі паэту заданне напісаць верш пра фабрычнае жыццё. А Маракоў у якасці сюжэта для гэтага верша абраў рэальны выпадак самагубства камсамолкі, якая забіла сябе токам пасля таго, як яе незаслужана абвінавацілі ў шкодніцтве. У гэтым вершы ёсць радкі:

***Чалавек —***
***гэта вам не мумія, —***
***ўзяў са склепу і выштурхнуў вон.***
***Чалавек — гэта сад***
***з залатымі думамі,***
***дзе па жылах праходзіць***
***блакітны агонь.***

Трэба зазначыць, што ў нашай сям'і ніколі не было шчырых прыхільнікаў камуністычнай ідэалогіі. Сям'я, можна сказаць, была дысідэнцкая. І, хаця я не спецыяліст у літаратуразнаўстве, вырашыў — збяру ўсё, што напісаў мой дзядзька, усе дакументы, дзе хаця б упамінаецца яго імя, усе матэрыялы, што тычацца яго і яго сяброў. І вось што вымалявалася. У семнаццаць гадоў Валерый Маракоў выдаў два зборнікі вершаў, якія, ужываючы сучасную тэрміналогію, былі тагачаснымі бестселерамі, на іх з'явілася дзесяць (!) рэцэнзій. Гэта зацікавіла мяне яшчэ больш і падштурхнула да далейшых росшукаў. Я звяртаўся ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі, Дзяржаўны літаратурны музей імя Янкі Купалы, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Расійскую нацыянальную бібліятэку, Нацыянальны мастацкі музей, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Дзяржаўны літаратурны музей Якуба Коласа, Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь (архіўны аддзел)... Дарэчы, уражанне ад дакументаў, знойдзеных у апошнім, страшнае. Я зразумеў, што не ўсе дакументы, знойдзеныя там, сёння можна выносіць на людзі. І з этычных меркаванняў, і з, так бы мовіць, палітычных. Звярнуўся я і да сучаснікаў майго дзядзькі, якія жывуць сёння — Сяргея Грахоўскага, Максіма Лужаніна, Паўла Прудннікава, Эдзі Агняцвет, Ядвігі Раманоўскай, Яўгена Ціхановіча, Дзмітрыя Сергіевіча... Усе яны ўспамінаюць майго дзядзьку як незвычайную, вартую захаплення асобу. Сяргей Грахоўскі, напрыклад, расказаў, што калі выйшаў зборнік "Пялёсткі", яго немагчыма было дастаць, за ім у бібліятэках літаральна выстройваліся чэргі. Другі сучаснік успамінаў, што калі Валерый Маракоў заходзіў у бібліятэку Саюза пісьменнікаў, бібліятэкарка казала: "Таварыш Маракоў, вы ж ведаеце, вам нельга да мяне заходзіць". Таму што чытачы адразу пачыналі выстройвацца ў чаргу за аўтографамі, Маракоў пачынаў чытаць свае вершы, і бібліятэка пераставала працаваць. На сённяшні дзень паэзію Маракова па-сапраўднаму не ведаюць. І калі я прыходжу ў рэдакцыі з матэрыяламі пра дзядзьку, мне намякаюць, што ён, канешне, быў добры паэт, але не тое, каб... Так, у юнацтве ён быў вельмі таленавіты, але пасля, ці ж бачыце, гэты талент быў задушаны... Не паспеў раскрыцца — расстралялі маладым. Прымушалі паэта пісаць патрыятычныя вершы... А вы пачытайце гэтыя "патрыятычныя" вершы ў тых варыянтах, якія ёсць у мяне. Няма там нічога пра ленінскія шляхі і турбіны! Той зборнік вершаў Валерыя Маракова, які выдадзены "Мастацкай літаратурай" у 1989 годзе, раю выкінуць — усё скалечанае. У выдатнай паэме "Муляр" аўтарам быў створаны партрэт эпохі грамадзянскай вайны, як брат забівае брата, як зямля патанае ў крыві. А цэнзура правіць, бязлітасна выкрэсліваючы цэлыя кавалкі і ўпісваючы новыя, — пра тое, як рабочыя будуюць новы свет, г. зн. камуністычны. Паэт піша, што няма на свеце такой навукі, якая б вучыла правільна жыць, а яму правяць, што ёсць такая навука. Правільна, у бальшавікоў яна была. І калі я разгортваю гэты, апошні выдадзены зборнік, мне смешна. Так, тут ёсць добрыя творы добрага паэта. Але гэта быў не проста добры паэт. На той час яго называлі лепшым сярод маладых. Калі я прыйшоў у купалаўскі музей, пляменніца Янкі Купалы сказала: "Я ведала, што рана ці позна нехта прыйдзе распытваць пра Маракова. Не можа быць, каб улюбёны вучань Купалы, які дзень і ноч жыў у яго, якога Купала называў Валікам, аб'явіў сваім пераемнікам, застаўся забытым".

**— Складваецца ўражанне, што шлях Маракова ў літаратуру быў імклівы і лёгкі, ледзь не ўсыпаны ружамі. Усе яго любілі, усе ім захапляліся...**

— Так, яго любілі, ім захапляліся. Але за тое ж самае, за што адны яго любілі, другія яго цкавалі. Цкаванне паэта пачалося ўжо пасля выхаду першай кнігі — "Пялёсткі". Адразу ж з'яўляецца рэцэнзія Антона Адамовіча пад гучнай назвай "А дзе ж грамадскасць?", якая пачыналася фразай: "Так званае ўпадніцтва, або дэкаданс, пачынае, на жаль, расцвітаць у нашай новай паэзіі". Аўтар рэцэнзіі вінаваціў юнага паэта ў "безнадзейным песімізме", у непрыманні "штодзённага змагання ў поце твару". Юрка Лявонны называе сваю рэцэнзію на "Пялёсткі" "Першы блін — комам", і зноў жа — папрокі ў недастатковым аптымізме, "неправідловым шляху". Несправядлівыя ацэнкі творчасці Валерыя Маракова давалі ўвесьчасна. Другі зборнік паэта, "На залатым пакосе", што выйшаў у 1927 годзе, таксама не пакінуў "абыякавым" Антона Адамовіча. Праўда, у процівагу яму зборнік высока ацанілі Э. Галубок (сын У. Галубка), С. Баркоўскі, іншыя... Высокі мастацкі ўзровень вершаў зборніка настолькі ўразіў тагачасныя літаратарскія і чытацкія колы, што нават нядобразычліўцы не наважыліся крытыкаваць яго. У 1930 годзе ў Маракова выйшла трэцяя кніжка — "Вяршыні жаданняў". Над яе зместам ужо добра папрацавала цэнзура. Нават назву змянілі — паэт задумваў назваць свой зборнік "Жыццё як мора-акіян", як і адзін з вершаў кнігі. Прычым, калі назву змянілі, не паспелі перабраць набор, і зборнік выйшаў з дзвюма назвамі: адна — на вокладцы, другая — на шмуцтытуле... Дык вось, у той кніжцы было некалькі вершаў, напісаных "на заказ". На той час, я лічу проста дысідэнцкіх на фоне таго, што пісалі іншыя. І за іх паэта зноў лаялі — спрабуе, маўляў, выправіцца, пайсці ідэалагічна правільным шляхам, але не атрымліваецца.

І вось тут час згадаць адну надзвычай "цікавую" асобу — Юрку Віцьбіча, які з'явіўся на Беларусі якраз у студзені 1933 года, калі пачыналася першая хваля палітычных рэпрэсій. Поўным ходам ішлі арышты і ссылкі інтэлігенцыі і сялянства. У першую чаргу ляцелі галовы таленавітых, неардынарных, проста ўмеючых самастойна думаць. У другу ўжо канчаткова зрабілася немагчымым з'яўленне хаця б "нейтральнага" артыкула, твора. Усё адсочваецца. Пісьменнік мае права выказваць любоў толькі да партыі. Усланіць толькі партыю і савецкі лад жыцця.

Дык вось, да снежня 1932 года Юрка Віцьбіч жыў у Маскве, вёў перапіску з Пятром Глебкам. Апошні і паспрыяў Віцьбічу ў прыездзе на Беларусь. Віцьбіч жыве ў становішчы "напаўгосця" ў калгасе Віцебскай вобласці. Але ўжо праз некалькі месяцаў бярэ на сябе смеласць даваць ацэнкі адметным беларускім пісьменнікам: "някультурнаму" В. Хадыку, "хрызантэмнай" Я. Пфляўмбаўм, "поўнаму нулю" М. Хведаровічу, З. Бандарынай, пра якую выказаўся проста непрыстойна, крытыку "на бязлюддзі" У. Сядуру, "абарыгену" М. Нікановічу, "поўнаму банкроту" С. Дарожнаму, "выдатнаму версіфікатару" М. Чароту, Б. Мікулічу і Ю. Лявоннаму з іх "бруднымі метадамі", і "эрэкцыйнаму правадыру" В. Маракову. Чамусьці Юрка Віцьбіч асабліва нападае на Маракова. Па-чалавечы гэта можна зразумець. Віцьбіч на Беларусі быў ніхто, "напаўгосць", як літаратара яго ніхто не ведаў. Кепска было са здароўем — на маскоўскім заводзе атруціўся фасгенам, які выклікае псіхічныя захворванні. Можна ўявіць, як раздражняўся Віцьбіч, калі бачыў Валерыя Маракова — высокага, маладога, блакітнавокага прыгажуна, папулярнага паэта, аўтара некалькіх паэтычных зборнікаў, якога, па сведчанні Паўла Прудннікава, асаджалі паклонніцы, і які, не раздумваючы, раздаваў выпадковым людзям свае ганарары, гэтак жа лёгка дарыў (ці губляў) вершы, якія складаў пастаянна, і на ўсе нападкі адказваў усмешкай. Таму я лічу памылкай нядаўнюю публікацыю лістоў Віцьбіча да Пятра Глебкі. Іх пісаў хворы, раздражнёны чалавек з надзеяй заслужыць ухвалу за "пільнасць" і "бескампраміснасць". Амаль усё ў гэтых лістах адносна Маракова, іншых маладнякоўцаў — няпраўда. Віцьбіч пачынае з таго, што піша: "Маракоў — купецкі сын, які ў свой час мазаў афіцыянтам твары гарчыцай". Між тым, бацька Валерыя Маракова, мой дзед, быў муляр, да рэвалюцыі — пісар у царскага генерала. І калі гэта "ў свой час" мог Маракоў "мазаць твары афіцыянтаў гарчыцай", раз на момант напісання гэтага ліста Маракову было ўсяго 24 гады, ён вучыўся ў педінстытуце, вечарам працаваў, напружана займаўся творчай дзейнасцю, дый гады якія былі — 1933—34, голад, талонная сістэма... Дарэчы, сам Віцьбіч — папоўскі сын, і чым гэта лепш за "купецкага"? Віцьбіч крытыкуе верш Маракова пра валейбол. Відаць, быў дзень фізкультурніка, і Маракова папрасілі нешта такое напісаць. Там ёсць радкі, у якіх гаворыцца, як герой пры ліку пятнаццаць нібы прачынаецца ад сну. Віцьбіч кпіць: аўтар прачнуўся ад апахмелкі. Бо не ведае элементарнага: партыя ў валейбол пры ліку пятнаццаць заканчваецца. Партыя была захапляючай, герой знаходзіўся пад уплывам гульні. Але Віцьбіч правілаў валейбола не ведае. На Беларусі няма ніводнага экземпляра гэтага верша. Мне даслалі яго па факсе з Санкт-Пецярбурга. Папракае Віцьбіч Маракова і ў любові да рамансаў, песень Вярцінскага, паэзіі Байрана. Прычым песні Вярцінскага называе "брудам". Відаць, не прадбачыў, што сёння ў Маскве на плошчы Зорак адной з першых закладзена зорка ў памяць гэтага спевака. Затое Віцьбіч нахвальвае паэтаў Жалязняка, Швэндаля, Нортмана, Бацюшкова, якія, на яго думку, і ёсць "сапраўдныя беларускія паэты", а таксама выказвае жаданне "моцна ціснуць руку" небезвядомаму Алесю Кучару. Але імёнаў "сапраўдных паэтаў" Швэндаля, Нортмана, Бацюшкова чамусьці няма нават у шасцітомным біяграфічным даведніку "Беларускія пісьменнікі". Рыгор Жалязняк — даследчык творчасці М. Багдановіча, які, як гаворыцца ў даведніку, "спрабаваў свае сілы ў жанрах верша, апавядання, нарыса..."

**— Няўжо ў лістах Віцьбіча няма ніводнай аб'ектыўнай ацэнкі, і ён толькі ўсё блытае і зласлівіць?**

— Ну чаму ж, часам ён угадваў. Напрыклад, досыць правільна ацаніў асобу Паўлюка Шукайлы і некаторых іншых вядомых пісьменнікаў. Не быў і пазбаўлены самакрытыкі. Пасля доўгай пакутнай працы над апавяданнем "Паэзія" зразумеў, што твор не атрымаўся, вось і піша Глебку пра "...нікуды не вартыя і нават проста паскудныя творы, як "Паэзія" Ю. Віцьбіча, "Мая каханая — рэдактар газеты" В. Маракова... Між тым, згаданы верш Маракоў напісаў на перапынку між лекцыямі і прысвяціў яго Эдзі Агняцвет, якая была рэдактарам інстытуцкай насценгазеты. Верш-экспромт, своеасаблівы мадрыгал для прыгожай дзяўчыны, які, аднак, для Віцьбіча ўсё роўна настолькі значны, што можа параўноўвацца з плёнам яго ўласнага шматдзённага "творчага змагання".

Дарэчы, у тым жа нумары "ЛіМа", дзе быў надрукаваны гэты верш, змешчаны і артыкул Валерыя Маракова "Пра паэзію", досыць тыповы для 1933 года, але ўсё ж без прасталінскіх і ўра-бальшавіцкіх пасажаў. Гэты артыкул Віцьбіч называе "дыскрэдытацыяй газеты "ЛіМ". Галоўная прэтэнзія — да фразы "Першае слова ў беларускай паэзіі сказалі Я. Купала і Я. Колас". "Дзіўна, чаму не ўключаюцца ў дыскусію... Купала, Колас..." — абураецца Віцьбіч. Відаць, хацеў пачуць ад народных пісьменнікаў запэўніванні, што яны ў беларускай паэзіі першага слова не гаварылі... Абсурд! Прычым, калі Віцьбіч ужо меў магчымасць папрысутнічаць на сходах "тавізаўцаў" — тагачаснага напаўбагемнага ўтварэння, "Таварыства аматараў выпіць і закусіць", і слухаў вершы Маракова, напісаныя "ў стол", не для друку, сапраўдную паэзію, для сваёй крытыкі ўсё роўна абірае верш, пра які ведае, што напісаны — па заказе, не ад душы. А калі Маракоў пісаў на тэмы, якіх ад яго патрабавалі, яго талент адразу мізарнеў, не мог раскрыцца. Затое Пятра Глебку на пасяджэнні ў ССП БССР (люты, 1933 г.) пахвалілі, што ён зазначыў упадніцкія матывы ў нядаўніх творах Маракова, правільна ўказаў, каб той пазбаўляўся тэм кахання, апявання прыроды і г. д.

**— У прынцыпе, ніхто з таленавітых пісьменнікаў не пазбег крытыкі, збольшага беспадстаўнай, у свой адрас. Думаецца, палярныя меркаванні пра таго ці іншага аўтара, дыскусіі наконт яго творчасці — гэта найлепшы паказчык значнасці гэтай творчасці, існавання самога прадмета размовы. А ў свой час Уладзімір Караткевіч атрымаў ад Кандрата Крапівы ў адказ на пасланыя для водгуку вершы пісьмовую параду кінуць пісаць, як бесперспектыўны занятак для аўтара гэтых вершаў. Думаецца, што асноўная праблема крытыкі**

*(Працяг на стар. 14—15)*

ва...", "найлепшымі і характэрнымі паэтамі ў сучасным складзе "Маладняка" ёсць Маракоў, Трус і Моркаўка".

Навуковец Уладзімір Юрэвіч згадаў, як у юнацтве прысутнічаў на творчай вечарыне Валерыя Маракова. Зала была паўнюткая моладзі. Дзве гадзіны выступоўца трымаў усіх як пад гіпнозам. Па ўспамінах П. Пруднікава, калі Маракоў выступаў разам з іншымі пісьменнікамі, заўсёды атрымлівалася няёмкасць: усе кветкі, апладысменты, захапленне паклоннікаў даставаліся яму. Хаця сярод "маладнякоўцаў" Валерый Маракоў быў самым маладым, яго больш за ўсіх друкавалі, пры пераліках прозвішча яго называлі першым. У крытычных артыкулах даходзіла да абсурду — вінаваціць дваццацітрохгадовага Маракова ў тым, што ён "узначальвае" нейкую "плынь" сваіх "пераймальнікаў", хаця ўсе з гэтых "пераймальнікаў" — намнога старэйшыя за яго, самастойныя творцы, такія, як А. Дудар, М. Чарот, Ц. Гартны, П. Броўка, Т. Кляшторны, У. Хадыка і іншыя. Дарэчы, дзіўнае супадзенне: многія крытыкі Маракова пасля перабраліся ў ЗША — Юрка Віцьбіч, Антон Адамовіч, Уладзімір Сядура... Усе зрабіліся змагарамі за беларушчыну. Усе асуджаюць сацыялістычны рэалізм, за недастатковую адпаведнасць якому некалі цкавалі юнага паэта Маракова.

**— Што вы даведаліся пра апошнія гады, месяцы жыцця паэта, пра яго смерць?**

— Гэта заслугоўвае асобнай размовы. Не ўсё яшчэ высветлена. Маракова арыштоўвалі двойчы. Першы раз — 21 сакавіка 1935 года, па падказцы аднаго з яго сяброў, сааўтара па некалькіх вершах 1927 года, таго, каго Віцьбіч называў "абарыгенам". Праўда, сам сябе ён называў Мікалаем Другім, а свайго сябра Маракова — Грышкам Распуціным (за манеру раскідвацца ганарарамі), добра спяваў, асабліва любіў песні з кінафільмаў "Пуцёўка ў жыццё" і "Залатыя горы".

"Агляд" творчасці Маракова па запросе НКУС рабіў Алесь Кучар. Паэт прасядзеў тады 70 дзён. Другі (і апошні) раз яго арыштавалі 6 лістапада 1936 года. Паказанні, на падставе якіх судзілі Маракова, давалі многія знаёмыя і нават блізкія яму людзі, некаторыя з іх зрабіліся класікамі беларускай літаратуры, таму прозвішчы іх называць не варта. Сталінская рэпрэсіўная машына дзейнічала амаль беспамылкова. Амаль. Сам Маракоў, згодна платаколу суда, нічым следства не дапоўніў, пра тых, хто сведчыў супраць яго, сказаў, што добра іх ведае, ніякіх асабістых рахункаў з імі не меў, але чаму яны яго агаворваюць, ён не ведае і растлумачыць не можа. А між тым ён мог хаця б падоўжыць сабе жыццё, прапанаваць суду новую "інфармацыю", як рабілі многія, справа была б аддадзеная на дaследаванне, і — хто ведае... Расстрэльвалі ж не ўсіх... Што рабілі з самім Мараковым у засценках НКУС, вядома толькі праз асобныя звесткі і чуткі. Напрыклад, пра тое, як паэту прыбілі на нач руку да сцяны камеры-"амерыканкі", каб не пісаў вершаў...

Маракова расстралялі 29 кастрычніка 1937 года, разам з Міхасём Чаротам, Ізем Харыкам, Юліем Таўбіным, Платонам Галавачом... Але яшчэ доўгі час бабуля, не ведаючы пра смерць сына, насіла яму ў турму перадачы, і НКУСаўцы, як гэта было ў іх звычаі, перадачы з задавальненнем прымалі. Не пакінулі ў спакоі і сям'ю расстралянага паэта. Арыштавалі і саслалі ў Сібір бацьку, звольнілі з працы малодшага брата Леаніда і саслалі. Жонку Леаніда выключылі з камсамола.

Праз чатыры гады пасля падзення сталінскага рэжыму сям'я атрымала даведку, што Валерый Маракоў быў расстраляны памылкова, і яго пасмяротна рэабілітуюць. Але сапраўдная рэабілітацыя паэта адбудзецца толькі тады, калі, як я ўжо гаварыў, імя яго загучыць так, як яно таго заслугоўвае, як яно і гучала ў тыя "расстрэльныя" гады, а творчасць яго нарэшце будзе разглядацца ў нескажоным выглядзе.

**— Як вы думаеце дасягнуць гэтай мэты?**

— У гэтай гаворцы немагчыма расказаць пра многія сотні старонак хронікі тых гадоў, сабраных пры дапамозе мінскіх, санкт-пецярбургскіх і маскоўскіх архіваў і музеяў. Кожны радок біяграфіі, кожны подпіс пад фотаздымкам каштаваў мне часу і грошай. У гэтым годзе апублікаваны добрыя ўспаміны пра Маракова М. Лужаніна, Э. Агняцвет, С. Грахоўскага, рыхтуюцца да друку невядомыя ўспаміны С. Баркоўскага, А. Звонака, П. Пруднікава, Я. Раманоўскай, С. Шушкевіча, Д. Сергіевіча. Магчыма, будуць апублікаваны ўспаміны Я. Ціхановіча, А. Адамовіча, У. Сядуры, М. Сяднёва, Д. Сергіевіча. Хачу стварыць фонд рэпрэсіраваных паэтаў, выдаць энцыклапедыю рэпрэсіраваных паэтаў і пісьменнікаў. Трэба аднавіць памяць нявінна забітых. Пакуль мы не адновім памяць пра іх, мы не развітаемся са страшным мінулым, калі дастаткова было быць пісьменнікам, каб быць забітым. І яшчэ: хачу звярнуцца да ўсіх з просьбай аб дапамозе ў росшуках матэрыялаў пра Валерыя Маракова і іншых "маладнякоўцаў", іх невядомых твораў ці любой іншай інфармацыі. За любую дапамогу буду вельмі ўдзячны.

**Гутарыла Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

## Валеры МАРАКОЎ



### Я веру

*Зямля... Зямля...*
*Вячэрняя маўклівасць.*
*І шлях адзін — далёкі і цяжкі...*
*Вітанне вам,*
*Краіны роднай нівы,*
*І вам, надзей ўваскрослых —*
*васількі.*

*Была пара*
*Надзей і парыванняў,*
*Была пара уздымаў маладых.*
*І сам я йшоў*
*Без болю і без ранаў*
*Шукаць жыцця і шчырасці*
*сляды.*

*Спявалі мне*
*Увечары дзяўчаты,*
*Увечар месяц лашчыўся*
*з аддаль.*
*Я быў юнацтвам горды*
*І багаты*
*І вось яму ўсё лепшае аддаў*

*Я жыў і верыў гордым і ўпартым.*
*Ласкалі нівы*
*Сонечнай красой...*
*Ах, што са мной!*
*Ці гэта сон, ці жарты,*
*Ці стала смерць халоднаю касой?*

*Ах, я не знаю:*
*Хмары набягалі,*
*Уставаў туман над дрэмлючай*
*ракой.*
*Душа, як камень,*
*Здрадніцка маўчала,*
*У вачах згасалі іскры васількоў.*

*І гаварыў мне нехта пра мастацтва,*
*Й што я халодны,*
*Жорсткі песіміст...*
*Што гэта поза ранняга юнацтва —*
*Яна памрэ, як увосень жоўты*
*ліст.*

*І помню я...*
*Мне маці гаварыла:*
*— Каго пакрыўдзіў, сынку,*
*раскажы,*
*Што так цябе*
*Бяссорамна пакрылі,*
*Як быццам ты ў сям'і*
*буржуя жыў.*

*Скажы, мой сын...*
*О, маці, маці, слухай!*
*Ідучы ў даль, на ранне, па начах*
*Пад песні грознай*
*ведзьмы-завірухі*
*Жыццё бяруць тут радасна,*
*З пляча...*

*Таму не ныць,*
*Не кідацца*
*Не плакаць...*
*Я знаю сам — жыццё як акіян!*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Дзе людзі ёсць з сумленнем*
*грамадзян.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*І за стварэнне*
*Шчасця і свабоды*
*Дзе задыхаюцца над мукай*
*чарцяжоў.*
*Дзе не гандлююць*
*Воляю народнай*
*І дзе жывым не дараць сум*
*крыжоў.*
*Таму ёсць мэта*
*Верыць і змагацца,*
*За свет працоўных падаць і*
*гарэць!*

*Ў змаганні толькі*
*Можа нараджацца,*
*Што здольна жыць не марамі*
*звярэй!*

*Ах, я гарэў...*
*Вітанне, край радзімы!*
*І вам, надзей ўваскрослых —*
*васількі.*
*Я веру —*
*Хутка ў чорнай дамавіне*
*Звязем мы ноч з прастораў*
*дарагіх!*

1929 г.

●

*О, вясна!..*
*І бяссонныя ночы:*
*Сціх у сэрцы*
*Юнацтва разгул,*
*Мо затым, што нічога не хочу*
*І нікога спаткаць не магу.*
*Не чаруй,*
*О, даволі, не трэба!*
*Я інакшую долю спазнаў,*
*Што ў другіх*
*У змаганні за хлебам*
*Адцвітае жыццё і вясна.*
*Што другім,*
*хто ў цемры асенняй*
*Аддае сваё цела й душу,*
*Досыць толькі*
*Не стаць на калені,*
*Досыць толькі*
*Узняць смелы шум.*
*І тады*
*Там, дзе грызліся звяры,*
*Нельга будзе душою хварэць,*
*Бо ў жыцці,*
*Калі ў што-небудзь верыш,*
*Ты йшчэ можаш*
*Цвісці і гарэць.*

1927 г.

●

*У гэтай цемры*
*Бязрадаснай ноччу*
*Песня буры не скажа —*
*Жыві!*
*Сёння мора*
*Жыве і ракоча,*
*Мора хоча ахвяр і крыві.*

*Ты пайшла ад мяне,*
*Ты пакінула*
*Гэту радасць*
*Маленькіх надзей,*
*Бо жадаеш зашмат, —*
*Над магіламі*
*Не шкадуюць далёкіх людзей.*
*Выбачай,*
*Можа, гэта не гэтак.*
*Можа, й праўда,*
*Што сонца для ўсіх.*
*Каб пялёсткамі*
*Месячных кветак*
*Радасць гордай*
*Прыроды расціць.*
*Што ж з таго?*
*Я не веру прыродзе.*
*Нельга верыць усяму,*
*Што цвіце:*
*Хай ўзраслі*
*Мы з табой ў непагодзе,*
*Ўсё ж у грудзях*
*ёсць карункі надзей.*
*Слухай:*
*Мора жыве гэтай ноччу,*
*Мора хоча ахвяр і крыві.*
*Хай яно*
*Злосцю дзікай рагоча,*
*Я ж кажу табе:*
*Вер і жыві!*

1927 г.

ПОШТА

# Праз два стагоддзі?

"Гродзенская праўда" бескампрамісна здзівіла. У нумары ад 4 жніўня 1998 года журналіст Вячаслаў Кот такім чынам характарызуе актуальныя адносіны мясцовых уладаў да культурнай спадчыны:

"На сённяшні дзень у гістарычнай частцы Гродна 361 жылы дом, з якіх 90% даваеннай забудовы. За апошнія 12 гадоў капітальна адрамантавана 52. Найбольш інтэнсіўна работа вялася ў 1986-87 гадах, калі капітальна адрамантаваны 16 дамоў... Пачынаючы з 1994 года работы вядуцца, як кажуць, праз пень-калоду. Так, у 1994 годзе адрамантавана нуль жылых будынкаў, у 95-м і 96-м па адным, у 97-м нуль, а ў 98-м мяркуюць адрамантаваць два. Калі надалей захаваць такія тэмпы, то на заканчэнне рамонту старой часткі Гродна спатрэбіцца роўна ...два стагоддзі".

Больш аптымістычна глядзіць на беларускую (ці польскую?!) культуру ў Гродне намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкама Я. Жабрун у тым жа нумары "Гродзенскай праўды". "Сёння нельга канкрэтна сказаць, каму належыць ідэя правядзення ў Гродне фестывалю нацыянальных культур, — пачынае ён таямніча, як у дэтэктыве. Але адразу выдае сам сябе: — Пастанова... была падтрымана першым намеснікам міністра культуры У. Гілепам і старшынёй гарвыканкама Г. Крупенкам. Многа папрацавалі над ідэяй фестывалю А. Білык, Т. Стружэцкі, В. Мацюшэнка, І. Яновіч, В. Брыкач, В. Губіч, І. Кліменка і іншыя..." Далей пералічваюцца рэжысёры, госці, дыпламаты, пабрацімы з Беластока, Ліможа і Міндэна ("Такога не было ні ў адной з былых рэспублік Савецкага Саюза..." і г.д.), Герой Сацыялістычнай Працы А. Дубко, кампазітар гімна свята В. Войцік і аўтар слоў С. Панізнік, галоўны рэжысёр П. Гуд, кіраўнік фотаклуба А. Ласмінскі... Яшчэ далей памінаецца "Каардынацыйны савет па справах нацыянальных супольнасцей Беларусі пры Дзяржаўным камітэце па справах рэлігіі і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь", "у рашэнні якога прапануецца прыдаць III фестывалю нацыянальных культур у 2000 годзе статус міжнароднага (!)...", а таксама "пабудаваць летні амфітэатр для масавых мерапрыемстваў".

Дзівосы дый толькі. Па-першае, як можа прымаць рашэнне той, хто ўсяго толькі п р а п а н у е?! Па-другое, што можна ў Гродне пабудаваць новага, калі тут не здольны адрамантаваць старое? Па-трэцяе, чаму замест Савета Міністраў і МЗС у міжнародныя справы лезуць нейкія самазванцы?

Але ці варта верыць Я. Жабруну? З тых ініцыятараў, каго ён пералічвае, былы мэр Гродна Г. Крупенка звольнены са свае пасады, У. Гілеп, В. Брыкач, В. Губіч і іншыя альбо звольнены, альбо на пенсіі, сягоння на службе толькі І. Кліменка, падначаленая Я. Жабруна. Галоўныя ж арганізатары "свята", якое робіцца адначасова на мясцовыя, дзяржаўныя з бюджэта і... "польска-варшаўскія" грошы, так і не названы. Сам "фестываль" у польскай прэсе называюць "свенто культуры п о л ь с к е й", сталіцу Нёманскага краю называюць "вспульным мястэм". У гэтай сталіцы толькі па лініі культуры д з е с я ц ь гадоў стаіць у руінах будынак абласной бібліятэкі і ш а с н а ц ц а ц ь гадоў — другі будынак, на рамонт якіх няма сродкаў, бо яны пайшлі на "польскія фестывалі", замаскаваныя пад "фестывалі нацыянальных культур". Таму і ўбачыў свет артыкул Я. Жабруна: тут відавочная спроба зваліць усё на тых, "кого уж нет, а те далече", а самім і далей сядзець на сваіх крэслах, гасцяваць у Беластоку і Варшаве, дагаджаць "даляроўцам" і руйнаваць Гродна...

*г. Гродна* **Алена ГАЙКО**

У МАЁЙ БІБЛІЯТЭЦЫ ёсць выдадзены ў 1947 годзе ў Празе папулярызатарска-прапагандысцкі нарыс з прэтэнцыёзнай назвай "На шляху да славы земляў Кароны Чэшскай". Нарыс ахоплівае чэшскую гісторыю ад часоў старажытных да падзей на той момант нядаўніх — вайна з фашызмам, стасункі з саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі, пасляваеннае адраджэнне Чэхаславацкай Рэспублікі. Мэта, дзеля якой была выдадзена брашура, раскрываецца ў першых радках прадмовы: "Уся наша гісторыя, кароткі змест якой мы прапаноўваем у гэтай кнізе, даводзіць, што наша культура сваёю даўніною і якасцю ставіць нас на чале народаў. Гісторыя даводзіць, што мы не толькі здольныя стварыць самастойную дзяржаву, але таксама і тое, што мы, насуперак неспрыяльнаму лёсу і несупынным нападам нашых суседзяў, на працягу больш як тысячы гадоў гэтую дзяржаву ўтрымлівалі. Мы маем права пасля тысячагадовага вопыту пазбавіцца ад неспакойнага элементу, як нямецкага, так і венгерскага, і пры дапамозе гэтага перасялення знішчыць ачаг, які з'яўляецца падпальшчыкам пажараў, што распаўсюджваюцца на цэлую Еўропу".

Апошні раздзел брашуры прысвечаны гісторыі памежнага з Германіяй чэшскага рэгіёна, адкуль толькі-толькі выселілі немцаў. Ёсць там пералік крыўд, якія немцы на працягу стагоддзяў рабілі мясцовым славянам, і радасная канстатацыя, што "з перасяленнем немцаў гэта самая заходняя славянская выспа зноў зрабілася чыста чэшскай, якой яна была калісьці даўно..." Дзейнічаў урад Чэхаславаччыны ў адпаведнасці з арт. 13 Патсдамскага пагаднення ("павінна быць здзейснена перасяленне нямецкага насельніцтва, а таксама людзей нямецкага паходжання, што засталіся ў Польшчы, Чэхаславаччыне, Венгрыі, у Германію").

У дадзеным выпадку я не пракурор і не адвакат. Для мяне гэты эпізод еўрапейскай гісторыі — падстава паразважаць пра некаторыя асаблівасці чалавечай натуры. Мабыць, самая старажытная і адначасова самая "жывая" мова з усіх існуючых — гэта мова ультыматуму. Чалавеку ўвогуле ўласціва ставіць пытанне рубам (накшталт: "альбо мы — альбо яны!", "хто не з намі — той супраць нас", "калі вораг не здаецца, яго знішчаюць") і вырашаць яго крывёю і гвалтам. "Ідэальным" варыянтам лічыцца фізічнае знішчэнне апанента (як спрабавалі знішчыць армян туркі ў час Першай сусветнай вайны і немцы габрэяў — у час Другой), а калі гэта немагчыма тэхнічна альбо нявыгадна ідэалагічна (хочацца яшчэ і прывабнае аблічча ў чужых вачах мець) — дык заперці яго на максімальную адлегласць ад сваёй асобы (дэпартаваць, інакш кажучы) — за калючы дрот, на бязлюдную выспу, у тундру, пустэльню, на вайну — каб забілі, за мяжу — каб вока не муляў. Па праве сілы, па статусе пераможцы.

Прычым перанесеныя пакуты не робяць чалавека мякчэйшым, а толькі спараджаюць прагу помсты. Чэхі і славакі, быў час, нацярпеліся ад немцаў ды венграў, і выдаленне гэтых этнічных груп за межы Чэхаславаччыны трактавалі як аднаўленне гістарычнай справядлівасці. Хоць, па сутнасці, гэта быў акт помсты і яшчэ, мабыць, спроба вырашыць коштам "этнічных чыстак" сякія-такія матэрыяльныя пытанні "тытульных нацый": зямля, з якой высяляюць немца, станавілася ўласнасцю чэха, у пакінуты венграм дом усяляўся славак.

Ёсць меркаванне, што крывавыя падзеі на Балканах, на тэрыторыі, якая яшчэ нядаўна была Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікай Югаславіяй, маюць найперш эканамічны, а не рэлігійны ці нацыянальны падтэкст. З'явілася магчымасць пашырыць свой кавалак зямлі за кошт рэпрэсаванага суседа. Калі б у свой час у Югаславіі адбылася цывілізаваная зямельная рэформа, сёння там абышлося б без крыві.

Нашы славянскія браты ў сэнсе ўзяць тое, што "кепска ляжыць", — не лепшыя і не горшыя за іншыя народы свету.

Дэпартацыі, як сацыяльнай праблемы, напрыканцы мінулага года была прысвечана спецыяльная навуковая канферэнцыя, якую ладзіла Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцяў (месціцца ў Берасці) пры дапамозе Асацыяцыі беларускіх карэйцаў. Матэрыялы канферэнцыі былі выдадзены надзвычай малым накладам: тэматычны зборнік — сто асобнікаў, бюлетэнь "Весці АНМ" — сто дваццаць. Яны трапяць на вока толькі шчыльнаму колу спецыялістаў, між тым як вартыя шырокага кола чытачоў.

Нацыя — шырэй за этнас. Нацыя звычайна складаецца з некалькіх этнасаў пры дамінаванні (палітычным, а адсюль — і эканамічным, моўным і культурніцкім) аднаго. Нацыя падзяляецца на "карэнны народ" і "нацыянальныя меншасці".

# Галоўнае — мець карані

## ПА МАТЭРЫЯЛАХ ЗБОРНІКА АДНОЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

Такі падзел, трэба прызнаць, не вельмі карэктны. Скажам, беларусы Беласточчыны жывуць на сваёй зямлі, але не ў сваёй дзяржаве, адпаведна маюць статус нацыянальнай меншасці, а прыезджы паляк будзе лічыцца на Беласточчыне "карэнным", бо гэта тэрыторыя — Рэспублікі Польшчы. Беларусь, мабыць, адзіная ў свеце дзяржава, дзе стан нацыянальных меншасцяў (расійскай і польскай) больш прывабны, чым стан карэннага народа. Прытым, што ні польскіх, ні расійскіх этнічных тэрыторый у складзе Рэспублікі Беларусь няма. З гэтай прычыны я часам скептычна стаўлюся да самога існавання ў нашай краіне навуковага цэнтра па праблемах нацыянальных меншасцяў, аднак не магу не адзначыць плёну ягонай дзейнасці. Гэта датычыць і прыгаданай вышэй навуковай канферэнцыі.

Вельмі часта дэпартацыя — гэта "радыкальны" сродак, з дапамогаю якога імперскія народы вырашаюць "праблему" так званых "инородцев". Дэпартацыі падвяргаюцца ворагі і апаненты існуючага палітычнага рэжыму. Дэпартацыя можа ажыццяўляцца на аснове ідэалагічных ("класавых"), канфесійных, эканамічных альбо яшчэ якіх установак. Прынамсі, у перабудовачныя гады ўпершыню адкрыта загаварылі пра ГУЛАГ як пра механізм, што забяспечваў бясплатнай рабочай сілай "будоўлі камунізму". Менавіта гаспадарчы аспект быў галоўным у дзейнасці сістэмы ГУЛАГа. Мільёны людзей былі адарваны ад дома, перакінуты за тысячы кіламетраў ад родных мясцін. Індустрыяльны патэнцыял Савецкай дзяржавы ствараўся такім жа чынам, як у часы Пятра І будаваўся Пецярбург — катаржнай працай бясправных людзей.

Доктар філасофскіх навук Сяргей Яцкевіч нагадаў, што дэпартацыя, як сродак барацьбы з "сацыяльна небяспечнымі" асобамі, вядома яшчэ з антычных часоў, але ў нашы дні, на нашых вачах выгнаннікамі станавіліся цэлыя народы. Кандыдат гістарычных навук Святлана Марозава засяродзіла ўвагу на рэлігійных праблемах XVII - XIX стагоддзяў у Беларусі і на тым, як не па-хрысціянску касцёл, абапіраючыся на дзяржаўную ўладу, нішчыў праваслаўную царкву, а потым царква, пры змене палітычнай сітуацыі на сваю карысць, нішчыла касцёл. Зразумела, і тут без дэпартацый не абыходзілася.

Яўген Піскун распавядаў, як царская, а потым і савецкая ўлады, пабачыўшы ў сістэматызаваным вывучэнні беларускага фальклору праяву ідэйнага сепаратызму, высылалі з Беларусі пісьменнікаў-фалькларыстаў. Існавала такая завядзёнка і ў буржуазнай Польшчы.

Пасля паўстання канца XVIII стагоддзя, 1830—31 і 1863—64 гадоў тысячы жыхароў Беларусі розных сацыяльных станаў былі дэпартаваны ўглыб Расіі (даклады кандыдатаў гістарычных навук Уладзіміра Сосны і Вольгі Працэнкі).

Доктар філасофскіх навук Моргій Барысаў (Расія) і Ігар Пушкін прысвяцілі свае даклады дэпартацыям савецкага часу. Кандыдат філалагічных навук Людміла Піскун — канкрэтнаму аспекту гэтай неабсяжнай тэмы, дэпартацыі беларускіх літаратараў у 1930—33 гадах. Пра свае праблемы паведамілі госці з Казахстана, Палесціны, Польшчы — Г. Кан, Раухі Хіджаз, Барбара Блада і Казімеж Косак-Глуўчэўскі.

У 1937 годзе ў сувязі з перспектывай савецка-японскай вайны ахвярамі дэпартацый сталі савецкія карэйцы (даклад кандыдата медыцынскіх навук Сяргея Тэна).

Непрыхаваны гвалт часта меў пад сабою трывалую юрыдычную базу. "Міжнародныя пагадненні 1878—1945 гадоў і палітыка дэпартацыі нацыянальных меншасцяў у краінах Еўропы" — даклад Вячаслава Мацюшэнкі. Аўтар бярэ кропкай адліку год 1878 ("Берлінскі дагавор"), калі "ўзнік прэцэдэнт у міжнароднай этнічнай палітыцы еўрапейскіх краін, сэнсам якога з'яўляецца імкненне да стварэння этнічна чыстых дзяржаў". Потым было Лазанскае пагадненне 1923 года, Мюнхенскае — 1938 года, Патсдамскае пагадненне 1945 года. "У адпаведнасці з Патсдамскім пагадненнем за некалькі пасляваенных гадоў 20 млн. чалавек падвергліся дэпартацыі — ад Судэтаў да Альпаў, ад Кёнігсберга да Сафіі. Гіганцкія перасяленні народаў 1920—1950 гадоў спрычыніліся да кардынальнай змены этнічнага складу Еўропы, негатыўныя наступствы гэтага адчуваюцца да сённяшняга дня ў адносінах паміж краінамі".

Экзатычную для Беларусі тэму "Дэпартацыя апачаў у 1886 годзе" закрануў Алесь Сімакоў, выканаўчы сакратар "Беларуска-індзейскага таварыства" з Гомеля.

Доктар гістарычных навук Імануіл Іофе даволі падрабязна прааналізаваў трэцюю і чацвёртую дэпартацыі насельніцтва заходняй часткі Беларусі ў 1940—1941 гадах. Цікава, што з пачаткам вайны паміж СССР і Германіяй частку дэпартаваных афіцыйна амніставалі, дакладней — "усіх польских граждан", а грамадзянства ўрад СССР вызначаў па нацыянальнасці. Такім чынам гэтае паслабленне закранула толькі этнічных палякаў. Беларусаў, украінцаў ды іншых гэта не датычыла.

Пра дэпартацыю народаў у Якуцію распавядала Саасылана Сыўцава (Якуція, РФ).

Вельмі балючую тэму (бо дагэтуль палітычныя амбіцыі не дазваляюць Польшчы называць рэчы сваімі імёнамі) раскрыў Іван Казлоўскі з Украіны — "Дэпартацыя ўкраінскага насельніцтва ў Польшчы ў 1945—1946 гадах". Гэтая акцыя ажыццяўлялася, так бы мовіць, "в добровольно-принудительном порядке" і мела мэтаю знішчыць украінцаў у Польшчы як палітычную сілу, пазбавіцца ад адвечных апанентаў і канкурэнтаў палякаў. Гвалт здзейснілі 3-я, 8-я і 9-я дывізіі Войска Польскага. Рабілася гэта ўсё са згоды Масквы.

Наш вядомы гісторык Алег Трусаў нагадаў пра падзеі трохсотгадовай даўніны — дэпартацыю ў Маскоўю насельніцтва Вялікага княства Літоўскага ў 1654—1667 гадах. У дадзеным выпадку маскоўскія ўладары дзейнічалі, як Батый альбо Чынгізхан: горад абрабаваць, потым спаліць, насельніцтва (асабліва рамеснікаў) забраць у палон.

Пасля прачытання матэрыялаў канферэнцыі прыходзіш да думкі, што за апошнія паўтары тысячы гадоў у чалавечай свядомасці не адбылося кардынальных змен і наўрад ці ёсць сэнс чакаць такіх змен у наступным стагоддзі. Відаць, перастаўляць з месца на месца мэблю, памежныя слупы, асобных людзей і (калі ёсць магчымасць) цэлыя народы закладзена ў чалавечую прыроду. Так было і так будзе. Галоўнае, каб цябе самога не перасоўвалі, як тую мэблю, пры чарговым павароце дзяржаўнай палітыкі. А для гэтага трэба ўмець стаяць на сваім, мець моцныя карані ў сваёй зямлі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Трывала ўвайшлі ў мову народа адзнакі якасці і прыдатнасці: "Не з калгаснага поля - са свайго агарода", "Не з агульнага статка — свая, уласная". Жыццё дае нам свае ўрокі, ідэі, як кажуць, авалодваюць масамі, і гэтыя словы ці не лішні доказ неэфектыўнасці калгасаў.

●

Ёсць ужо людзі з планеты Марс, ды колькі яшчэ з планеты Маркс!

●

— Зроблена добра, майстар? — Добра, але не прыдатнае. У мастацтве, каб нечага дабіцца, добрае павінна быць выдатнае.

●

"Скажыце: сыроватка з-пад сыраквашы"... Якім нескладаным тэстам карыстаюцца ўрачы, каб вызначыць здольнасць пацыентаў гаварыць выразна. А што гаварыць, калі няма чаго гаварыць?.. Стоп, і гэта, аказваецца, умоўная фраза — так звяртаюцца адзін да аднаго статысты, каб абазначыць шум натоўпу на сцэне... Дураць нашага брата, дураць... А мо і тэст на рэальнасць — стукачы высвятляюць нашу лаяльнасць? Дык дудкі — пра нас гэта чуткі.

●

Акадэмікі без дысертацый? Не трэба здзіўляцца. Сусед мой без адукацыі, а правадзейны член акадэміі цыркавага мастацтва. Ніхто не супраць высакароднасці, узнагарод і прэмій, але навошта абсалютызаваць годнасці, хоць бы тых жа акадэмікаў.

●

Залатыя, сярэбраныя, бронзавыя медалі... У алімпійскім спорце ёсць, аказваецца, яшчэ і пазалочаныя — за другое месца. А ў нас усе медалі толькі пазалочаныя ці пасярэбраныя, колькі ж мы маем алімпійскага ўзроўню каманд!

●

У тэлевізары. "Гледзячы на голых, незашпіленых, верыш, што тканіны не адхілены, а толькі часова не ў стылі". (Не пра норавы, рэклама тэкстылю!)

●

— Хто табе блізкі — той, хто побач? — Не, той, на чыю спадзяюся помач. І не трэба ўнушаць мне "палюбі блізкага": ёсць блізкія высокія і блізкія нізкія.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3510
Нумар падпісаны ў друк 13.8.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 4833/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12